

*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*

# Літаратура і Мастацтва

ШТОТЫДНЁВІК

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Пятніца, 25 мая 1990 г. № 21 (3535) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.


## Удзельнікам Усесаюзнага свята славянскага пісьменства і культуры

Дарагія сябры!

Вітаю вас, удзельнікаў Усесаюзнага свята славянскага пісьменства і культуры, якія сабраліся ў гэтыя дні ў сталіцы Беларусі Мінску.

Такія сустрэчы становяцца добрай традыцыяй народаўбратоў, садзейнічаюць развіццю іх гістарычнай памяці, прагрэсу нацыянальнай культуры, умацаванню духоўнай агульнасці. Яны дазваляюць зноў і зноў звяртацца да вытокаў мудрасці многіх пакаленняў, якія пакінулі нам у спадчыну трывалыя міжнацыянальныя сувязі, гуманістычныя каштоўнасці, вельмі багатую літаратуру і мастацтва.

Упэўнен, што Дні славянскага пісьменства стануць добрым прыкладам дружбы і ўзаемаразумення паміж краінамі і народамі.

**М. ГАРБАЧОЎ.**

## Слаў КАРАСЛАВАЎ: «Справа Кірылы і Мяфодзія— справа ўсіх славян»

**Імя балгарскага паэта і белетрыста Слава Хрыстава Караслава вядома савецкім чытачам, у асноўным дзякуючы яго раману «Браты з Салонікаў». Ён уваходзіць у склад балгарскай дэлегацыі, якая прымае ўдзел у Свяце славянскага пісьменства і культуры ў Мінску.**

Цяпер славянскія народы зноў вядуць пошук сваёй духоўнай апоры, сваёй дарогі ў

(Працяг на стар. 13).



**Напярэдадні адкрыцця Свята славянскага пісьменства і культуры 23 мая ў Мінску ў Доме літаратара адбылася прэс-канферэнцыя, у якой прынялі ўдзел прадстаўнікі афіцыйных дэлегацый, якія прыбылі на свята. Адкрываючы яе, старшыня Рэспубліканскага таварыства беларускай мовы Н. Гілевіч падкрэсліў, што Усесаюзнае свята славянскага пісьменства і культуры мае асаблівую афарбоўку, бо праходзіць у Беларусі, на зямлі вялікага славянскага асветніка і гуманіста Францішка Скарыны, 500-годдзе якога сёлета па рашэнні ЮНЕСКА адзначае ўсё прагрэсіўнае чалавецтва. У нашай краіне такое свята прайшло ў Мурманску, Ноўгарадзе, Волагдзе, Кіеве, Варашылаўградзе і некаторых іншых гарадах, а сёлета факел дружбы нашых народаў успыхне ў Беларусі.**

**Н. Гілевіч пазнаёміў прысутных з прадстаўнікамі афіцыйных дэлегацый, якія прыехалі ў горад Мінск.**

**Пасля на прэс-канферэнцыі да прысутных звярнуліся намеснік старшыні Міжнароднага фонду славянскага пісьменства і славянскіх культур А. Мілоў, кіраўнік дэлегацыі Украіны, член-карэспандэнт АН УССР П. Сохань, М. Бычвараў (Балгарыя), М. Ягела (Польшча), Й. Гласны (Чэхаславакія), У. Волкаў (РСФСР), І. Клекерэ (Латвія).**

**Былі дадзены адказы на многія пытанні прысутных.**

**НАШ КАР.**

## Пяць дзён, якія не перавярнулі свет, і трыццаць хвілін, якія абнадзеілі

**— такім запомніўся парламенцкаму карэспандэнту «ЛіМа» першы этап работы сесіі Вярхоўнага Савета рэспублікі**

...18 мая, 22.00. Са стэнаграмы сесіі: «**Председательствующий.** Уважаемые народные депутаты! Сегодня нас по праву можно назвать прозаседавшимися...»

Мінаў самы доўгі і самы напружаны парламенцкі дзень. Таму, відаць, нашы дэпутаты, звычайна вельмі неабыякавыя да стылю вядзення сесіі, не надалі ўвагі згаданаму няўдаламу жарту міністра юстыцыі В. Ціхіні. У той момант усе — у зале, на плошчы, дома ля радыёпрыёмнікаў — чакалі адказу на пытанне: «Х Т О ?».

Зноў вяртаю чытачоў у дзень 18 мая, бо лічу, што выбары Старшыні Вярхоўнага Савета БССР — і самі дэбаты, і іх вынік — далі досыць аб'ектыўны адбітак сацыяльна-палітычных працэсаў, якімі жыве сёння рэспубліка. Больш таго, з'явіліся своеасаблівым індыкатарам, які бясстрасна выявіў, так бы мовіць, ступень рэфармуемасці нашага грамадства.

Усе маглі бачыць — дэпутатам было з каго выбіраць. Гэтаксама як і ўсім нам сёлета было з каго выбіраць нашых дэпутатаў. Выбар зроблены. Ці мог ён быць інакшым? Не думаю...

«Абыякавасць улады да самых неадкладных бедаў народа ў спалучэнні з яго доўгацярплівасцю мы можам назваць «сіндромам Расіі!» — так афарыстычна выказаўся днямі адзін з прамоўцаў на з'ездзе народных дэпутатаў РСФСР. Памяняем Расію на Беларусь у гэтай фразе — ці зменіцца яе горкі сэнс? Назіраючы за ходам выбараў кіраўніка беларускага парламента, я ўспамінаў не менш скрушную канстатацыю Васіля Быкава, яго словы на нядаўнім пісьменніцкім з'ездзе: «Столькі гадоў нацыя без лідэра», хоць і разумеў, што лідэраў нацыі не выбіраюць ні тайным, ні адкрытым галасаваннем.

Доўгія гады самазадаволенага панавання саслужылі кепскую службу самой сістэме — атрафіравалі здольнасць генерыраваць свежыя ідэі і вылучаць яркіх асоб. З іншага боку, «новыя людзі», з'яўленне якіх

(Працяг на стар. 2).

(Пачатак на стар. 1).

было непазбежнае, яшчэ не паўсталі ва ўвесь рост. Вось чым, думаецца, можна растлумачыць вынікі выбараў у нашым парламенце. А за ўсім гэтым — няпэўнасць, драматызм моманту, *які мы перажываем.*

51,1 працэнта галасоў атрымаў М. Дзямянцей і стаў Старшынёй Вярхоўнага Савета. На пытанне карэспандэнта БЕЛТА, як ён адчувае сябе ў такой сітуацыі, Мікалай Іванавіч адказаў: «Зусім упэўнена. У мяне ніякіх сумненняў няма».

Між тым, тое, што адбылося ў апошні перад перапынкам дзень сесіі, наўрад ці дадало Старшыні ўпэўненасці. Звярнуся да стэнаграмы...





«Я не хотел выступать раньше, до избрания Председателя.., но сегодня я об этом хочу сказать... Я убедился, что Центральный Комитет моей партии перешел не к поиску, как это раньше он делал, путем сближения с другими силами, которые, может быть, вчера очень громко кричали *на этой площади, — а пошел* на конфронтацию. Почему мы, Ефрем Евсеевич, сегодня не ищем (это и к вам относится, Николай Иванович) на деле компромиссы? Почему мы сегодня не учитываем реальность и реальную расстановку сил в нашем обществе? Ведь это по крайней мере неразумно» (дэпутат А. Лукашэнка).

«...я не хочу больше выходить из этого здания так, как вчера выходил... Я хочу быть как гражданин Белоруссии — чистым, откровенным и смелым. И я бы просил вас, Николай Иванович, как Председателя Верховного Совета БССР, выйти на эту площадь и объясниться с гражданами» (дэпутат *Я. Глушкевіч*).

«Няўжо прадстаўнікі Кампартыі не адчулі таго напружання і той канфрантацыі, якая спела і ўнутры вашай партыі і ўнутры нашага грамадства? Няўжо элементарна няможна *было зразумець, як кансалідаваць* наш Вярхоўны Савет і як зняць напружанне ў грамадстве? На гэта вы не пайшлі. І вось вынік. Цяпер могуць пачацца забастоўкі ў Гомелі, могуць пачацца забастоўкі ў Менску...» (дэпутат З. Пазняк).

Так у залу парламента ўварвалася дыханне плошчы. Пяцідзённае «супрацьстаянне» не магло не разрадзіцца. Хтосьці з калег напісаў, што, напрыклад, выступленне лідэра БНФ на сесіі «падліло масла ў агонь». Мне здаецца, што і яно, і іншыя выступленні на сесіі 19 мая з'явіліся хутчэй халодным душам...

Трыццаціхвілінны перапынак, пад час якога М. Дзямянцей перагледзеў сваю (ці толькі сваю?) прапанову аб кандыдатуры першага намесніка Старшыні Вярхоўнага Савета, — абнадзеіў не толькі тым, што ў выніку на адну з вышэйшых дзяржаўных пасад быў выбраны *Станіслаў Шушкевіч.* Заведзеная машына рушыла было ў вызначаным кірунку, але мусіла даць задні ход. Ці не ўпершыню гэта адбылося вось так, амаль увачавідкі.

Па-другое, і гэта, бадай, самае галоўнае, — адбыўся нейкі зрух, надзвычай важны дзеля паспяховасці ўсёй далейшай працы сесіі. І ўвогуле дзеля станаўлення беларускага парламента. Мы з'яўляемся сведкамі цяжкага, складанага, часам непаслядоўнага і нават выбухованебяспечнага працэсу *ператварэння трох соцень* з лішкам малазнаёмых альбо зусім незнаёмых людзей — у калектыў, здольны выяўляць вс лю і мудрасць, прымаць ад казныя рашэнні. Не хацелася б перабольшваць вынікі гэтага працэсу, яны пакуль што больш чым сціплыя, *але яны* — ёсць.

**Андрэй ГАНЧАРОЎ.**



# МІНСАВЕТ ПАЧЫНАЕ І...

**Праз вокны Мінскага гарвыканкома добра відаць Дом урада. Так што ўдзельнікі сесіі новага гарсавета (а яна пачалася праз два дні пасля адкрыцця сесіі Вярхоўнага Савета рэспублікі) маглі бачыць пікеты, а часам і немалыя згуртаванні людзей, якія сустракалі народных дэпутатаў БССР...**

Каля ўвахода ў гарвыканком такога бачыць не давялося. А дэпутаты гарадскога Савета на самым пачатку сваёй работы *вырашылі* звярнуцца да калег з просьбай: улічыць патрабаванні выбаршчыкаў Мінска і неадкладна арганізаваць прамую радыё- і тэлетрансляцыю (у запісе) сесіі Вярхоўнага Савета. Пытанне аб трансляцыі з гарадской сесіі нават не ўзнікала.

І ўсё ж, думаю, рашэнняў Мінсавета выбаршчыкі таксама чакаюць з нецярплівасцю. Мне падалося слушным выказванне аднаго з дэпутатаў у кулуарах сесіі: за нашай работай будуць уважліва сачыць дэпутаты Маскоўскага, Ленінградскага, Кіеўскага і шмат якіх яшчэ гарадскіх Саветаў. Вопыт народаўладдзя, якога так яшчэ не хапае нашаму грамадству, аднолькава каштоўны для ўсіх народных дэпутатаў — незалежна ад іх рангу. Ды і звычныя нашы ўяўленні аб строга вертыкальнай іерархіі ўлады (табелі аб рангах) карэкціруюцца жыццём. *Новыя законы* — у прыватнасці, аб мясцовым самакіраванні, аб уласнасці, аб статусе народнага дэпутата ў СССР і г. д. — у прынцыпе ствараюць новую сітуацыю. Цяпер Савет абыдзецца і без дазволу або інструкцый зверху, можа дзейнічаць самастойна, выказваючы інтарэсы выбаршчыкаў. І што важна, на гэтым шляху ён можа рухацца далей і хутчэй, чым вышэйшыя органы ўлады.

У першы дзень работы Мінсавета яго дэпутаты з трывогай гаварылі аб тым, што ўсхвалявала многіх мінчан — раптам у сталічных магазінах узніклі вялізныя чэргі за мукой, крупамі, макаронамі і г. д. Але гэта не была праблема аднаго толькі Мінска. І справа тут не ў нейкіх асаблівасцях псіхалогіі жыхароў Мінска або Віцебска, а ў агульнай эканамічнай сітуацыі нестабільнасці, вынікі якой адчуваюцца абсалютна ва ўсіх рэспубліках і рэгіёнах краіны.

Яшчэ цікавы факт. Як засведчыў на сесіі выконваючы абавязкі старшыні Мінгарвыканкома Г. Цішкевіч, адна з прычын мяснога і кілбаснага дэфіцыту *ў тым, што каля трыццаці пра*цэнтаў мясапрадуктаў скупляюцца немінчанамі. Дык што рабіць? Забараніць вываз прадуктаў, увесці жорсткае рацыяніраванне, карткі? Але ж не трэба забываць, што не ў Мінску выпрацоўваецца сельскагаспадарчая прадукцыя. І ўвод у дзеянне новых магутнасцей па вырабу мясных паўфабрыкатаў, пра што гаварылася на сесіі, само па сабе яшчэ не дапаможа вырашыць харчовую праблему.

Праблема харчавання — *далёка не адзіная (хоць і адна з* першых па важнасці) для нашай сталіцы. Патрэбы ў таварах лёгкай прамысловасці задаволены сёння ў горадзе на 70—80 працэнтаў. Попыт перавышае прапанову прыкладна на мільярд рублёў (па нехарчовых таварах).

Дэфіцыт гарадскога бюджэту на сёння — каля 60 мільёнаў рублёў. Між тым, толькі на камунальнае будаўніцтва патрабуецца ў дзесяць разоў больш.

Жыллё. Па забяспечанасці ім Мінск займае 15—16-е месца ў Саюзе. Больш як 120 тысяч сем'яў чакаюць паляпшэння сваіх жыллёвых умоў. А кожны *год насельніцтва* сталіцы рэспублікі павялічваецца на 35—36 тысяч. У горадзе не хапае паліклінік, бальніц, школ, дзіцячых садоў, устаноў культуры, магазінаў, пральняў і г. д. Расце злачыннасць. І толькі з кааператывамі выканкому яшчэ *неяк удаецца змагацца:* за апошні час 362 з іх былі закрыты.

Вось такая — у канспектыўным плане—карціна выявілася перад дэпутатамі гарсавета ў інфармацыйным дакладзе, з якім выступіў Г. Цішкевіч. *Галоўнай прычынай такога становішча* дакладчык назваў жорсткую цэнтралізацыю планавання і размеркавання фондаў і рэсурсаў па рэшткавым прынцыпе. Пры гэтым да самага апошняга часу 70 працэнтаў усіх капіталаўкладанняў выдзялялася на будаўніцтва вытворчых аб'ектаў у горадзе.

Хоць у дэпутатаў і былі сур'ёзныя *пытанні да дакладчыка*— у першую чаргу, звязаныя з экалогіяй горада, — трыццацімінутная інфармацыя задаволіла дэпутатаў сваёй сцісласцю, канкрэтнасцю і рэальным аналізам стану спраў. Дарэчы, яшчэ на пачатку работы сесіі, *калі абмяркоўваўся парадак* дня, была зроблена спроба нагогул зняць пытанне аб дакладзе: работнікам апарату яўна не хацелася браць на сябе адказнасць. З іншага боку, дэпутаты, якія ўваходзілі ў арганіза-

*Спрэчкі, палеміка*

**Валянцін АКУЛАЎ,**
доктар філасофскіх навук,
прафесар

# Логіка жыцця і стэрэатыпы мыслення

**Артыкул І. Антановіча «Магія слоў і логіка жыцця», апублікаваны ў «Рабочей трибуне» ў нумары за 6 мая г. г. і чамусьці ўзноўлены ў нашым рэспубліканскім друку, выгадна адрозніваецца ад мноства іншых, якія распрацоўваюць той жа сюжэт. Адрозніваецца не навізной і сілай крытычнага пафасу, не грунтоўнасцю і аргументаванасцю пазітыўнага зместу. Зусім наадварот, схільнасцю прымаць «магію слоў» за «логіку жыцця» аўтар грашыць не менш, чым яго апаненты. Тым не менш трэба прызнаць: перад намі адна з нямногіх (калі не адзіная пакуль) спроб даць крытычны аналіз тэарэтычных асноў «Дэмакратычнай» і «Марксісцкай» платформ у КПСС. Ужо само па сабе гэта робіць артыкул І. Антановіча надзвычай цікавым. Цікавасць гэтая нашмат павялічваецца ад таго, *што логіка аналізу* змушае аўтара, *можа*, нават насуперак уласнаму жаданню, агаляць адначасова і тэарэтычны падмурак, на якім грунтуецца абараняемая ім платформа КПСС. Карацей кажучы, артыкул, несумненна, варты таго, каб прыглядзецца да яго больш уважліва...**

Як і трэба было чакаць, свой першы крытычны ўдар І. Антановіч наносіць па тым палажэнні «Дэмакратычнай платформы», што крызіс у партыі і краіне — гэта крызіс перш за ўсё самой камуністычнай ідэалогіі. Аспрэчваць фактычны бок гэтай высновы аўтар, натуральна, нават і не спрабуе. Ды і дзіўна было б рабіць гэта, маючы перад вачыма працэсы, якія адбыліся і адбываюцца ў краінах так званай «сусветнай сацыялістычнай сістэмы». Хіба што паклікаць у сведкі вопыт Албаніі, Кубы, Паўночнай Карэі ці, на горшы выпадак, Кітая, які прадэманстраваў нядаўна ўсяму свету жыццёвасць камуністычнай ідэалогіі на плошчы Цяньаньмэнь. Таму ён ідзе іншым шляхам: спрабуе абаперціся на аргументы тэарэтычнага характару. «А агульнавядома ж, — гаворыць І. Антановіч, — што эвалюцыя ідэалогіі толькі адлюстроўвае грамадска-эканамічныя і сацыяльна-палітычныя працэсы ў грамадстве. Ідэалогія хварэе на ўсе хваробы, на якія хварэе і грамадства». Інакш кажучы, камуністычная ідэалогія сама па сабе тут зусім ні пры чым. Ідэалагічны крызіс, які перажывае сёння «свет сацыялізму»,—усяго толькі адлюстраванне грамадска-эканамічных і сацыяльна-палітычных працэсаў, што адбываюцца ў ім.

Тое, што «эвалюцыя ідэалогіі толькі адлюстроўвае грамадска-эканамічныя і сацыяльна - палітычныя працэсы ў грамадстве» — гэта праўда. Што б ні казалі, а Маркс меў рацыю: не свядомасць грамадства вызначае ўрэшце грамадскае быццё людзей, а грамадскае быццё вызначае свядомасць грамадства. Але... пры адной абавязковай умове: калі мы маем справу з **нармальным** грамадствам, г. зн. з грамадствам, якое развівалася і развіваецца па аб'ектыўных, іманентна ўласцівых яму законах. Ці стане хто сёння сцвярджаць, што ўсе гэтыя 70 з гакам гадоў грамадства наша развівалася па сваіх унутраных законах? Не, мы «будавалі» яго, прычым будавалі ў адпаведнасці з камуністычнай мадэллю, камуністычнай ідэалогіяй. І свядомасць савецкага чалавека таксама фарміравалася зусім не ў згодзе з той аб'ектыўнай заканамернасцю, на якую спасылаецца І. Антановіч. Мы яе «ўносілі ў масы», кіруючыся рэцэптам, выпісаным яшчэ на парозе XX стагоддзя. Але калі гэта так, дык дзеля чаго апеляцыя аўтара да законаў функцыянавання грамадства? Таму, для каго закон не пісаны, няма чаго спасылацца на закон.

Калі чалавечы арганізм развіваецца па логіцы генетычна закладзенай у ім чалавечай прыроды, ён і сфарміруецца ў нармальнага чалавека. Калі ж, накшталт іспанскіх кампрачыкосаў, «будаваць яго», г. зн. фарміраваць у адпаведнасці з зададзенай мэтай, «ідэалам», мы і атрымаем Квазімоду ці штосьці падобнае. І калі ўсе гэтыя гады і дзесяцігоддзі мы будавалі наша грамадства ў адпаведнасці з камуністычнай ідэалогіяй і ў выніку атрымалі грамадства-вырадка, дык хіба не відавочна, што вінавата ў гэтым перш за ўсё ідэалагічная мадэль, якую мы рэалізавалі, «апрадмецілі», як гавораць філосафы?

Праўда, можна запярэчыць: кампрачыкосы, маўляў, ставілі антыгуманныя мэты. Мы ж ставілі перад сабою мэту самую высакародную, самую гуманную. І не наша віна, што вынік аказаўся зусім не такі, якога мы чакалі. Часткова гэта, вядома, так. І ўсё ж я настойваю, што аналогія справядлівая. Бо палітыкі, якія ўзяліся не больш і не менш, як «перарабіць свет», проста абавязаны былі ведаць тую заканамернасць, якую Гегель назваў калісьці «іроніяй гісторыі»: людзі імкнуцца да аднаго, а атрымліваюць нешта дыяметральна супрацьлеглае. А калі ўжо не хапіла часу і жадання прыслухацца да парады чалавека, які сёе-тое разумеў у гісторыі, дык варта было б задумацца хоць бы над народнай мудрасцю, якая па-свойму выяўляе тую ж заканамернасць: добрымі намерамі дарога ў пекла выбрукавана. Так, гісторыя іранізуе. Але яна іранізуе толькі з тых, хто, не засвоіўшы як след і арыфметыкі быцця, спрабуе яго *«пераўтварыць», будучы цвёрда* перакананым, што ўжо зразумеў усю яго вышэйшую матэматыку.

Вінавата, кажуць, не камуністычная ідэалогія, вінаваты яе сталінскія скажэнні, якія прывялі да таго, што грамадства, пабудаванае *намі*, *аказалася* дэфарміраваным. Але хто можа сказаць сёння, якая камуністычная мадэль грамадства ў сапраўдным яе змесце? А галоўнае — якія шляхі рэалізацыі гэтай мадэлі? Дзе ўпэўненасць у тым, што распрацаваная новая мадэль будзе менавіта тым, што нам патрэбна? Дзе гарантыі, што, нават пазбавіўшы грамадства ад сталінскіх дэфармацый, перабудаваўшы яго ў адпаведнасці з нашымі ўяўленнямі пра «дэмакратычны сацыялізм», мы атрымаем нешта жыццяздольнае, што зможа даць чалавеку чалавечыя ўмовы жыцця? Такіх гарантый няма. Есць наш «сацыялістычны выбар», якому, як нас запэўніваюць, мы далі клятву на вернасць у 1917 годзе і ад якога адступіць ужо аніяк не можам.

Матэрыялізму ўва ўсім гэтым няма, вядома, ні кроплі. Шляхі грамадскага развіцця не выбіраюць. Яны дыктуюцца логікай быцця, прыроднага і сацыяльнага. Няма на зямлі ўлады, слушна гаворыць Пляханаў, якая магла б сказаць грамадству: ты павінна ісці ў той, а не ў гэты бок, як няма на зямлі ўлады, якая магла б прадвызначыць нормы паводзін фізічным ці хімічным працэсам. Дык, можа, час перастаць гуляць у ідэалагічныя цацкі і прыняць, нарэшце, жыццё такім, якое яно ёсць? Можа, час перастаць ужо эксперыментаваць і даць магчымасць грамадству развівацца ў адпаведнасці з яго ўласнымі законамі? Мы ўжо заплацілі за наш «сацыялістычны выбар» дзесяткамі мільёнаў чалавечых жыццяў. *Можа, хопіць спакушаць лёс? Мы прынялі праўд за жывую* рэальнасць. Ці не час адумацца, стаць відушчымі?

Само сабой зразумела, што без сацыяльнага прагназіравання грамадства проста не магло б існаваць, бо працэс грамадскага развіцця — працэс свядомы і *мэтазгодны*. *Але адна* справа сацыяльнае прагназіраванне, заснаванае на навуковым аналізе тэндэнцый развіцця грамадства, і зусім іншая справа — сацыяльнае пражэкцёрства, якое сягае на сто гадоў наперад і ў аснове якога не ляжыць нічога, акрамя гульні ўяўлення і добрых пажаданняў. У першым выпадку мы маем справу з навуковым кіраўніцтвам грамадскімі працэсамі. У другім — з палітычнай угрум-бурчэеўшчынай з яе неадольным свербам перакройваць жыццё шляхам спалучэння «ідэі прамалінейнасці з ідэяй усеагульнага ашчасліўлівання».

Я нічога не маю супраць камуністычнай ідэі самой па сабе. Больш таго, як матэрыяліст-дыялектык я гатовы пагадзіцца, што сам ход гістарычнага развіцця вядзе чалавецтва да такога грамадскага ўладкавання, пры якім «свабоднае развіццё кожнага стане ўмовай свабоднага развіцця ўсіх». Але я рашуча супраць таго, каб гвалтаваць грамадства дзеля дагаджэння ідэі, выдаваць уласную *нецярплівасць за тэарэтычны* аргумент. Палітычная партыя, якая арыентуецца на прыгожы лозунг, а не на суровую рэальнасць, — гэта не народная, а папуліцкая партыя, дзейнасць якой у канечным выніку прыводзіць да гвалту і трагедыі грамадства. *Ленін, па-мойму,* зразумеў гэта ў пачатку 20-х гадоў. Мы ж не хочам зразумець і праз 60 гадоў, хоць уласная гісторыя павінна была, здавалася б, нас сяму-таму навучыць.

Што тычыцца «Марксісцкай платформы», дык яна непрымальная для І. Антановіча перш за ўсё вось чаму: «яе аўтары пазбягаюць нават упаміну імя Леніна, замоўчваюць пра яго ўдзел у Кастрычніцкай рэвалюцыі, наогул пра ленінізм як тэорыю і практыку сацыялістычнага будаўніцтва ў нашай краіне. Між тым за гэтай «недагаворанасцю» прыхавана палітычная небяспека бадай ці не большая, чым фракцыйная скіраванасць «Дэмакратычнай платформы». Бо калі ігнараваць ленінізм як частку марксісцкай ідэйнай спадчыны, дык і рэальны сацыялізм XX стагоддзя быццам бы акажацца выпадковым».

Што ж, давайце разбірацца і з гэтым. Павінен адразу ж зрабіць агаворку: я арганічна не прымаю шабас, які ўсчаўся апошнім часам вакол імя Леніна. І наогул, мы паводзім сябе ў дачыненні да нашых «правадыроў», як паганцы ў дачыненні да сваіх багоў. Псіхалагічна гэта можна зразумець: сляпое пакланенне мае сваім адваротным бокам такое ж сляпое знеслаўленне, тут дзейнічае псіхалагічны закон антытэзы. І тым не менш. Што дазволена дзікуну, не да твару цывілізаванаму чалавеку. Ды гэта, так бы мовіць, а propos.

Гаворка, як я разумею, ідзе тут пра дзве асноўныя ідэі ленінскай канцэпцыі сацыялізму: *1) магчымасць сацыялістычнай* рэвалюцыі ў краіне з адносна невысокім узроўнем развіцця прадукцыйных сіл; 2) магчымасці пабудовы сацыялізму ў адной асобна ўзятай краіне. Менавіта ў гэтых пунктах Ленін перш за ўсё і разышоўся з *Марксам. І давайце не будзем* хітраваць. А то ж сёй-той ужо сумняваецца, а ці быў Ленін наогул ленінцам, спрабуе ідэю магчымасці пабудовы сацыялізму ў асобна ўзятай краіне прыпісаць выключна Сталіну. Я зноў і самым старанным чынам перагарнуў сталінскія «Пытанні ленінізму». Павінен з усёй адказнасцю сказаць: Сталін досыць дакладна перадае погляды Леніна, сутнасць яго сацыялістычнай тэорыі. Іншая справа, што Сталін цалкам праігнараваў, і, мяркую, праігнараваў невыпадкова, тыя сумненні ў вернасці абранага шляху, якія пачалі адольваць Леніна ў апошнія гады жыцця пад уплывам вопыту грамадзянскай вайны і першых гадоў Савецкай улады.

Аднак на чым быў заснаваны прагноз Леніна аб магчымасці сацыялістычнай рэвалюцыі першапачаткова ў адной краіне? Ніякага сакрэту тут няма: Ленін зыходзіць з нібыта адкрытай ім заканамернасці аб нераўнамернасці развіцця капіталізму ў эпоху імперыялізму. *А разам з тым ніякая гэта* не заканамернасць імперыялізму, гэта агульная заканамернасць развіцця чалавечай цывілізацыі. Дастаткова звярнуцца да вопыту сусветнай гісторыі, каб навочна пераканацца ў гэтым. Але і гэта яшчэ не ўсё. Нават калі згадзіцца з Леніным, то, па яго ж уласнай логіцы, варта было б прызнаць, што сацыялістычная рэвалюцыя павінна адбыцца першапачаткова ў найбольш развітой капіталістычнай краіне. Ленін жа пастулюе не толькі магчымасць, але і ледзь ці не неабходнасць таго, што яна адбудзецца ў краіне з адносна невысокім узроўнем развіцця капіталізму, капіталістычнага спосабу вытворчасці. Супярэчнасць яўная. Але і яна лёгка вырашальная. Справа ў тым, што Ленін разглядаў імперыялізм як **адзіную сусветную сістэму**, прарыў у якой павінен быў адбыцца першапачаткова ў найбольш слабым звяне і далей распаўсюдзіцца ўжо па ўсім ланцугу. Гэты прагноз і тэарэтычныя яго абгрунтаванні аказаліся памылковыя. Ніякай сусветнай сацыялістычнай рэвалюцыі не адбылося, і Расія была аддадзена на волю ўласнага лёсу.

Такім чынам, фактычна ўжо к 1919 году Ленін і бальшавікі стаялі перад альтэрнатывай: альбо прызнаць Кастрычніцкую рэвалюцыю гістарычнай памылкай, альбо паспрабаваць будаваць сацыялізм у адной краіне, прычым краіне слаба развітой, эканамічна шматукладнай, якая ўключала ў сябе рэгіёны, дзе панавалі яшчэ родапляменныя адносіны. Бальшавікі абралі другі шлях. Я думаю, што гэта быў жэст адчаю. Ва ўсякім разе, ён ніяк не мог быць апраўданы ні з пазіцый марксісцкай сацыялагічнай тэорыі, ні, тым больш, з пазіцый матэрыялістычнай дыялектыкі. Справа, разумеецца, не ў тэорыі матэрыялістычнай дыялектыкі, *а ў самім жыцці*, якое яна ідэальна рэканструюе.

Мне не хацелася б звяртацца да азоў гэтай тэорыі, весці гаворку на абстрактнай мове яе катэгорый. І ўсё ж. Існуе аб'ектыўная заканамернасць, пацверджаная ўсім вопытам *культуры: развіццё любой* з'явы адбываецца не інакш, як шляхам пераходу ад аднаго якаснага стану ў другі. Прычым кожны такі пераход аказваецца ўнутрана дэтэрмінаваным працэсам якасных змен з'явы. Абапіраючыся на гэтую агульную дыялектычную заканамернасць, Маркс робіць вывад: ніводная грамадска - эканамічная фармацыя не можа сысці з гістарычнай арэны, пакуль яна не вычарпала магчымасцей свайго развіцця, г. зн. не спарадзіўшы ўнутры сябе ўмовы свайго ўласнага адмаўлення. У дадзеным выпадку гэтая заканамернасць была па-валюнтарысцку парушана. Мы спрабавалі будаваць сацыялізм, не лічачыся з тым, што грамадства да гэтага проста не было гатова — ні эканамічна, ні ў сацыяльна - палітычных адносінах, ні духоўна. Гэта значыць, у ім не саспелі тыя ўнутраныя ўмовы, якія Маркс лічыў абавязковай гарантыяй пераходу да сацыялізму. Аб гэтым і папярэджвалі бальшавікоў Пляханаў і яго прыхільнікі.

*Што ж адказаў Ленін?* Адказ вядомы і ўтрымліваецца ў ягоным лісце да Суханава: а чаму, уласна кажучы, мы павінны чакаць, пакуль гэтыя ўнутраныя ўмовы саспеюць? Узяўшы ў рукі палітычную ўладу і выкарыстоўваючы яе механізмы, *мы створым гэтыя ўмовы*, прычым значна хутчэй. Насуперак марксізму, Ленін наогул быў схільны думаць, што палітыка не можа не мець першынства перад эканомікай.

Я пытаюся: ці варта шмат мудраваць над пытаннем, адкуль вырасла наша адміністрацыйна-камандная сістэма з яе дыктатам дзяржавы над грамадствам? Паўтараю: першыя ўжо крокі ў гэтым напрамку паказалі Леніну памылковасць гэтай палітычнай устаноўкі і вымусілі перайсці да нэпа, што сталася адначасова і пераацэнкай яго поглядаў на сацыялізм. І гэта трэба, вядома, улічваць. Але пры гэтым не варта рабіць выгляд, што сталінская практыка пабудовы сацыялізму наогул не мае ніякіх каранёў у ленінізме, што каманднa - адміністрацыйная сістэма — вынаходніцтва выключна аднаго Сталіна. Высакародны гнеў, які выказваецца ці імітуецца паасобнымі палітыкамі і тэарэтыкамі з выпадку паказу гэтай сувязі, у любога чалавека, які больш-менш знаёмы з тэорыяй і практыкай бальшавізму, можа выклікаць толькі ўсмешку шкадавання. Гавораць аб ленінскай ідэі сацыялізму як ладзе цывілізаваных кааператараў. Але ж спецыялістам добра вядома і тое, як паступіў Ленін з «цывілізаванымі кааператарамі» ў 1922 годзе.

У артыкуле «Сацыялістычная ідэя», на які, пэўна, абапіра-

**(Працяг на стар. 12).**

барацьбы, патрыятызм і адданасць беларускага народа савецкаму ладу. Шмат якімі старонкамі і вобразамі раман усё ж робіць немалое ўражанне. Пісаў яго майстар слова. Але ўвогуле пра мастацкую перамогу тут гаварыць цяжка. Адзін з самых вялікіх пралікаў рамана — яго ўнутраная статычнасць. Вы маеце рацыю, гаворачы, што героі твора нагадваюць шахматныя фігуры, якія рухаюцца па волі чалавека, што сядзіць за дошкай. За гры гады вайны ніякіх змен, зрухаў у псіхалогіі персанажаў рамана па сутнасці не адбываецца — як і ў псіхалогіі народа-змагара. Тым не менш, ніхто не можа папракнуць Міхася Ціханавіча ў прыстасаванстве. Так ён мысліў, так глядзеў на свет. Дарэчы, некалькі гадоў назад маскоўскае выдавецтва «Прогресс» выдала на іспанскай мове скарочаны варыянт «Векапомных дзён» спецыяльна для Кубы. Мне якраз давялося пісаць да кнігі прадмову.

**М. З. — Палічылі, відаць, маскоўскія выдаўцы, што дапамога «Востраву Свабоды» не павінна абмяжоўвацца танкамі і ракетамі, патрэбны і ідэалагічныя «малітоўнікі».**

**Н. П.** — Дэфіцыт глыбокай, бескампраміснай праўды пра вайну наша літаратура пераадольвала і пераадольвае вельмі марудна. Дужа ўжо многа было ў нас і раманаў, і аповесцей, і апавяданняў, пазбаўленых і смелага погляду, і таленту, павярхоўных, а то і проста фальшывых, абразлівых для тых, хто зведаў нягоды таго часу.

**М. З. — З'яўленне кніг Васіля Быкава, Алеся Адамовіча, некаторых іншых пісьменнікаў, акрамя ўсяго, добра высвеціла рэальную «каштоўнасць» гэтай прадукцыі.**

**Н. П.** — Высвеціла то высвеціла, але і сёння яшчэ ручай лубачнага «сачыніцельства» на ваенную тэму, на жаль, не перасыхае.

**М. З. — У 1966 годзе вы, Нічыпар Еўдакімавіч, атрымалі Дзяржаўную прэмію БССР за кнігу крытыкі «На шырокіх шляхах жыцця», дзе аналізавалася беларуская проза аб Вялікай Айчыннай вайне. Мо не вельмі далікатнае пытанне да вас — вы сёння трымаецеся сваіх тагачасных ацэнак літаратурных твораў?**

**Н. П.** — Зборнік артыкулаў, пра які вы гаворыце, я адразу перапрацаваў у манаграфію, якая выйшла ў Маскве («На эпическом направлении», «Советский писатель», 1969 год). У ёй беларуская проза аб вайне была ахоплена больш поўна. Дык вось — ці трымаюся я сёння тагачасных ацэнак твораў? Гледзячы пра што канкрэтна ішла размова ў кніжцы. Такім бездапаможным, прымітыўным рэчам, як, напрыклад, аповесць І. Гурскага «Лясныя салдаты» альбо зборнік апавяданняў М. Клімковіча «Лясное возера», няцяжка было знайсці адэкватныя ацэнкі адразу і назаўсёды — час тут не можа нічога змяніць. Але справа, відаць, не ў асобных ацэнках, а ў больш істотным — у эстэтычных поглядах крытыка, з пазіцый якіх ён асэнсоўваў гэтую плынь беларускай прозы, у глыбіні аналізу і дакладнасці абагульненняў. Шчыра скажу, што, заглядваючы сёння ў даўно напісаныя старонкі, перажываеш даволі супярэчлівыя пачуцці. Не сорамна ўвогуле за назіранні над дылогіяй А. Адамовіча «Партызаны», раманам І. Навуменкі «Сасна пры дарозе», раманамі А. Кулакоўскага «Расстаёмся ненадоўга» і «Сустрэчы на ростанях». На ўзроўні аб'ектыўна-цвярозага аналізу, думаю, удалося ўтрымацца пры разглядзе рамана-эпапеі М. Лынькова «Векапомныя дні», асабліва яго жанравай прыроды. Але часта робіцца і няёмка — за пэўную прадузятасць думкі, за падгонку асобных твораў, вобразаў, сітуацый да сваёй ідэі. Даследуючы праблему маштабна-эпічнага адлюстравання народнага жыцця пад час акупацыі, я, напрыклад, прад'явіў прэтэнзіі за сюжэтную камернасць, звужанасць аўтарскага погляду аповесцям «Сярод ночы» Лідзіі Арабей і «Палон» Барыса Сачанкі, падышоў да іх з меркамі рамана. А яны былі задуманы і выкананы ў жанры аповесці, з прыватным чалавечым лёсам у цэнтры. Горка-іранічную, спачувальную ўсмешку выклікае сёння натужнае імкненне тады-сяды пры размове аб прынцыпах тыпізацыі спалучыць, «узгадніць» свой жыццёвы вопыт, жывыя назіранні з дагматамі тагачаснай афіцыйнай эстэтыкі, якімі нашы крытычныя галовы былі нафаршыраваны па макаўку. Часам бачыш жа і добра адчуваеш, што персанажу не хапае чалавечай натуральнасці, але паколькі ён надзелены ўсімі «выйгрышнымі» рысамі ўзорнага героя-змагара, яго паблажліва залічаеш у рэшце рэшт у здабыткі прозы. А ў другім выпадку, шчыра парадаваўшыся праўдзе чалавечага сэрца, праўдзе аўтарскай думкі, усёй атмасферы твора, усё ж пад націскам пануючых поглядаў на тыповае пачынаеш абстаўляць сказанае агаворкамі, складаць, што называецца, баланс, які дагадзіў бы ўсім. У адным месцы, прыпамінаецца, мне ў гэтым сэнсе дапамаглі ў час рэдагавання рукапісу ў выдавецтве «Советский писатель». Напаткаўшы высокую ацэнку вострапраблемнай аповесці Васіля Быкава «Мёртвым не баліць», работнікі выдавецтва добра-такі збянтэжыліся. Усё справядліва, да аповесці яны ставіліся вельмі прыхільна. Але ж яна забаронена, і цэнзура такое ні за што не прапусціць! Каб усё ж захаваць адпаведныя радкі, пайшлі на кампраміс. Давялося тут жа, за выдавецкім сталом, дапісаць абзац пра «згушчэнне ценевых фарбаў», «змрачнаватую атмасферу» і «аднабаковы характар абагульненняў».

Словам, было б па меншай меры наіўна, калі б я сёння ва ўсім прытрымліваўся тагачасных поглядаў і ацэнак. Ды і вузлавыя праблемы асэнсавання літаратуры аб вайне бачацца сёння ў больш складаным варыянце. Узровень задае тут сама літаратура лепшымі творамі і ранейшых, і апошніх гадоў. Для прозы, па-мойму, застаецца актуальнай задача эпічнага, маштабнага адлюстравання народнага жыцця ў ваенную эпоху. Але не шляхам стварэння бязмежных і на паверку плоскіх, хоць і маляўнічых панарам, яны ўжо добра скампраметавалі сябе. Нашай свядомасцю сёння валодаюць творы, у якіх па-філасофску асэнсоўваюцца лёс чалавека, драмы яго ўзаемадзеяння з грамадскімі абставінамі, няспрошчана вырашаюцца праблемы выбару. Творы, прасякнутыя ідэяй каштоўнасці чалавечага жыцця, сапраўднага, а не нейкага асаблівага, «нашага» гуманізму, паводле якога дзеля «гістарычнай справы» можна асабліва і не задумвацца над мільённымі стратамі людскіх жыццяў.

**М. З. — Слухаючы гэта, я думаю якраз пра быкаўскую прозу...**

**Н. П.** — Яе перш за ўсё я і меў на ўвазе. Але аддадзім належнае і іншым празаікам. Успомнім раман «Пошукі будучыні» Кузьмы Чорнага, яго апавяданні ваеннага часу, а таксама некаторыя апавяданні Міхася Лынькова, раман Янкі Брыля «Птушкі і гнёзды», «Хатынскую аповесць» Алеся Адамовіча, аповесці Івана Пташнікава «Тартак» і «Найдорф», раманы Івана Чыгрынава «Плач перапёлкі», «Апраўданне крыві», «Свае і чужыя», нарэшце, многія ваенныя старонкі новага рамана Івана Шамякіна «Зеніт» (сучасны пласт яго сюжэта, па-мойму, даволі банальны)... Гуманістычны пафас — крыніца прывабнасці і сілы лепшых твораў нашай прозы пра вайну.

**М. З. — І ўсё ж, на мой погляд, Васіль Быкаў найбольш плённа і ўражальна распрацоўвае сітуацыі сутыкнення чалавека і абставін, сітуацыі выбару, калі душы і маральныя якасці людзей раскрываюцца да канца.**

**Н. П.** — Згодзен з вамі. Быкаў — гэта асаблівы талент мастака, псіхолага і філосафа, бескампраміснага даследчыка чалавечай душы ў яе ўзаемадзеянні з неміласэрнымі жыццёвымі абставінамі. Я лічу, напрыклад, яго новую аповесць «У тумане» жамчужынай творчасці пісьменніка і ўсёй нашай прозы. Звычайная для ваеннага часу гісторыя, з якой няўмека зрабіў бы пасрэднае апавяданне, пад пяром Быкава напоўнілася пранізліва-пякучым болем за чалавека і загучала як магутная філасофская прытча-метафара не толькі ваеннай эпохі...

**М. З. — На нашай з вамі памяці вялася ганебная вайна супраць Васіля Уладзіміравіча. Гэта была вайна з правам пісьменніка мець свой, не падуладны афіцыйнаму, погляд на жыццё, на гісторыю нашага грамадства, нарэшце, на Айчынную вайну.**

**Н. П.** — Самастойнасць думкі ў нас ніколі не была ў цане, заўсёды лічылася непажаданай з'явай, якая можа пагражаць устоям сістэмы. Сярод прычын антыбыкаўскай вайны я б назваў яшчэ кансерватыўнасць грамадскай атмасферы, прымітыўнасць нашай нарматыўнай эстэтыкі. Быкаў, як вы, відаць, ведаеце, атрымліваў удары не толькі ад ідэалагічных органаў, але і ад братоў-пісьменнікаў.

Увогуле мне няпроста пра гэта гаварыць, бо нейкім чынам быццам бы і я трапіў у варожы Быкаву лагер. Даводзілася чуць такія намёкі. Што ж, я сапраўды быў спачатку сярод тых, хто не ўспрыняў творчасць Васіля Быкава, яе наватарскай сутнасці. Хачу нагадаць свой артыкул амаль трыццацігадовай даўнасці «Героі ці ахвяры лёсу?», надрукаваны ў «ЛіМе» і прысвечаны дзвюм першым аповесцям пісьменніка. Там побач з захапленнем быкаўскім рэалізмам было нямала беспадстаўных крытычных заўваг і нацяжак, якія ішлі ад спрошчаных уяўленняў аб духоўным свеце савецкага чалавека, аб маральных вытоках яго патрыятызму, але ж не было ніякіх палітычных абвінавачванняў. Асэнсоўваючы гэты свой артыкул, разумею, што пісаў яго, будучы ў палоне той самай нарматыўнай эстэтыкі, пра якую гаварыў вышэй. Вавёрка ў коле, ды і толькі. Па розуме, па мужнасці Васіль Быкаў аказаўся вышэй за нас, змог разарваць гэтае кола. Хвала яму за гэта.

Не ўтаю яшчэ адзін выпадак, звязаны з разборам прозы Быкава, за які я зараз таксама перажываю сорам. Я маю на ўвазе сваю закрытую рэцэнзію, напісаную па заказе выдавецтва на яго зборнік аповесцей і апавяданняў. Не разабраўшыся як след, напрыклад, у філасофіі апавядання «Адна ноч» (там, памятаеце, апавядаецца пра нашага салдата, які, апынуўшыся ў паўзасыпаным сутарэнні з нямецкім салдатам, замест таго, каб адразу забіць яго, вядзе з ім «мірную» спрэчку), я «пасыпаў» на аўтара папрокі за прыніжэнне вобраза савецкага воіна, за «песімістычную» накіраванасць думкі. Ох, гэтыя бадзёры, бяздумны «гістарычны аптымізм»! Колькі мы, крытыкі, папрацавалі на яго абарону і прапаганду, не зважаючы часцяком на горкую чалавечую праўду.

**М. З. — Пачынаючы гаворку аб працаўніках Васіля Быкава, я, Нічыпар Еўдакімавіч, і блізка не меў на ўвазе менавіта вас. Бяда вось у чым — вайна супраць самастойнай, смелай пісьменніцкай душы працягваецца. Тыя ж людзі (ці іх духоўныя нашчадкі), што некалі цкавалі Быкава, працягваюць сваю чорную справу ў адносінах да некаторых іншых пісьменнікаў. Напрыклад, Святланы Алексіевіч, мужная аповесць якой «Цынкавыя хлопчыкі» — аб Афганскай вайне — сустрэта ў штыкі ваенным істэблішментам, яе цкуюць у «Красной звезде», газеце БВА «Во славу Родины», пагражаюць расправіцца за яе «непатрыятызм». А якія перашкоды на шляху да чытача давялося пераадолець яе кнізе «У вайны не жаночае аблічча»? Я помню расказ Святланы Аляксандраўны аб тым, як сустрэлі рукапіс гэтай аповесці ў ЦК КПБ — пераважна лаянкай і пагрозамі.**

**Н. П.** — Чаму кніга «У вайны не жаночае аблічча» выклікала злоснае незадавальненне ідэалагічных чыноўнікаў, вайсковага, як вы кажаце, істэблішмента? Пісьменніца зняла са сваіх гераінь вайны параднае адзенне, праз іх лёсы паказала сапраўдную карціну вайны, жыццё чалавека на ёй, у дадзеным выпадку — жанчыны. Гэта прыйшло ў супярэчанне з ідэалагічна-выхаваўчымі ўстаноўкамі, з «генеральскімі», разлічанымі на піянерскую аўдыторыю, падфарбаванымі малюнкамі вайны. За дзесяцігоддзі выступленняў перад піянерамі той генерал даўно забыўся, якая гэта страшная рэч вайна. І тут, раптам, аголеная праўда вайны з яе брудам, жорсткасцю, нечалавечымі ўмовамі. Хіба могуць яны гэта дараваць пісьменніцы?

Я меў дачыненне да стварэння Віктарам Дашуком фільма на падставе кнігі Святланы Алексіевіч і, як галоўны рэдактар кінастудыі, неаднойчы быў сведкам спроб нашых начальніцкіх «эстэтаў» прымусіць аўтараў фільма выразаць многія «натуралістычныя падрабязнасці», расказаныя жанчынамі-франтавічкамі. Нямала папсавалі крыві рэжысёру, але ён чалавек стойкі, упарты. Урэшце фільм удалося адстаяць без страт...

**М. З. — Калі я ехаў сюды, дык на плошчы Перамогі ўбачыў карціну, якая стала ўжо руціннай. Пад'ехаў вясельны картэж легкавушак, пераплеценых уздоўж і ўпоперак каляровымі стужкамі, з адной з машын выйшлі з букетамі кветак маладыя і ў суправаджэнні шумнага натоўпу гасцей пайшлі ўскладаць кветкі да Вечнага агню. Пасля гэтага ўсе з рогатам, крыкамі доўга фатаграфаваліся.**

**Ці не кашчунна так «прычашчацца» да памяці продкаў? Не ведаю, як вам, а мне заўсёды цяжка глядзець і на надзьмутыя ад пачуцця ўласнага гонару твары школьнікаў у ганаровай варце ля Вечнага агню.**

**Н. П.** — Я з самага пачатку ўспрыняў гэтыя дзіцячыя гульні ля манумента Перамогі з унутраным супраціўленнем. Не трэба апашляць сур'ёзную справу. Так, ганаровая варта ў дні свята ў такіх месцах — рэч патрэбная. Дык прывязіце сюды ў той жа дзень Перамогі роту салдат і хай яны з сапраўднымі аўтаматамі, а не з муляжамі, як цяпер школьнікі, аддаюць даніну памяці паўшым на вайне.

**М. З. — Што здарылася, чаму ганаровыя варты піянераў, ускладанне маладымі кветак да помнікаў, сустрэчы ветэранаў з моладдзю не беспадстаўна ўспрымаюцца сёння як фармальныя акты, пазбаўленыя душы, сапраўднага пачуцця, шчырасці, нарэшце...**

**Н. П.** — Відаць, таму, што мы многае з некалі шчырых парываў загналі ў паказуху. А ў той жа час не зрабілі дзеля памяці паўшых многае з самага галоўнага. Сувораў сказаў, што вайна не можа лічыцца скончанай, пакуль не будзе пахаваны апошні забіты салдат. А што ў нас? Прайшло пасля разгрому фашысцкай Германіі сорак пяць гадоў, а на былых палях бітваў, скажам, як паведамлялі газеты і тэлебачанне, на Пскоўшчыне, дзе вяла цяжкія баі другая ўдарная армія, дагэтуль у лясах, у балотах ляжаць непахаванымі астанкі дзесяткаў тысяч салдат. Гэтымі днямі з тэлепраграмы «Взгляд» мы даведаліся, што непахаваных астанкаў загінуўшых салдат шмат нават у Падмаскоўі. Што ж гэта такое робіцца? Што ж мы за людзі? Што ж мы за грамадства?

**М. З. — А нашы шмат якія недагледжаныя ваенныя могілкі, брацкія магілы? Аддаўшы многа сіл і сродкаў у многім паказушнаму Хатынскаму мемарыялу, куды возяць важных гасцей рэспублікі, мы забыліся пра помнікі, знакі памяці, устаноўленыя адразу пасля вайны на месцах адзінкавых і масавых пахаванняў. Баліць сэрца, калі глядзіш на паўразбураны цэментны слупок за ржавай агароджай — магілу салдата, прозвішча якога знікла разам з бляшанкай, на якой яно некалі было вышкрабана...**

**Н. П.** — У сярэдзіне шасцідзесятых гадоў, помню, «ЛіМ» распачаў на сваіх старонках праблемную гаворку пад рубрыкай «Не забудзем мы — не забудуць нашчадкі» аб увекавечанні памяці пра ваеннае ліхалецце. Гаворка гэтая мела вялікі рэзананс, была заўважана і падтрымана «Праўдой», дала практычныя вынікі.

У той час увогуле ў рэспубліцы было многае зроблена, каб замацаваць у народнай свядомасці эпапею нашай смяротнай схваткі з фашызмам. Але змяняюцца пакаленні, ля руля ўлады сталі людзі, якія па ўзросце не маглі прымаць удзелу ў вайне, ведаюць пра яе толькі з кніг і кінафільмаў, і паступовае занядбанне памяці народнага подзвігу іх, думаецца, не вельмі хвалюе.

**М. З. — Як ні сумна пра гэта гаварыць, але мне здаецца, што пік чытацкай цікавасці да літаратуры аб Айчыннай вайне застаўся ззаду...**

**Н. П.** — Сёння ўвогуле на чытацкую свядомасць абрушылася лавінай столькі нечаканага, вострага, трагічнага з розных перыядаў нашай гісторыі, што ваенная рэчаіснасць як бы згубіла свой прыярытэт перад іншымі пераваламі нашай гісторыі. Але згаснуць цікавасць да яе не можа. Справа, аднак, у тым, што падтрымліваць і з новай сілай абуджаць гэтую цікавасць літаратура не зможа, застаючыся на пазіцыях дасягнутага. Патрабуецца новы ўзровень асэнсавання рэчаіснасці. Здаецца, для гэтага ствараюцца спрыяльныя ўмовы, перашкоды на шляху да праўды падаюць адна за другой. «Прыйдзе новы а мудры гісторык» і адкрые такія новыя пласты праўды падзей, людскіх характараў і страсцей на тым жа быццам бы ўжо добра асвоеным мацерыку жыцця нашага народа ва ўмовах акупацыі, мацерыку партызанскай барацьбы, што пра зацікаўленасць чытача не трэба будзе хвалявацца.

**М. З. — Новая «Вайна і мір»?..**

**Н. П.** — Як дасціпна зазначыў некалі Канстанцін Федзін, у адной кнізе ўсяго не скажаш — нават і ў дрэнна напісанай. Я маю на ўвазе не адну кнігу, а тэматычны напрамак літаратуры, у тым ліку і дакументальнай. Такімі рэчамі, як «Я з вогненнай вёскі...» Алеся Адамовіча, Янкі Брыля і Уладзіміра Калесніка, «У вайны не жаночае аблічча» Святланы Алексіевіч, аповесці Івана Новікава пра мінскае падполле, наша дакументалістыка паказала, што можа даць зварот і давер да бяскрайняга мора памяці людзей, народа, да архіўных скарбаў. Хоць і з архіўнымі скарбамі трэба абыходзіцца з розумам, бо там хапае і паказухі, і прыпісак, і проста беспардоннай брахні.

Адным словам, я пазіраю ў будучыню з пэўным аптымізмам і ўпэўнены, што літаратура, прысвечаная асэнсаванню вайны, як бы тая эпоха ад нас не аддалялася, будзе ўзбагачацца новымі плённымі здабыткамі.

**М. З. — Дзякуй, Нічыпар Еўдакімавіч, за шчырую гутарку.**

**Кастусь ЦВІРКА**



## *Пагоня*

О Беларусь! Спрадвек
Усе цябе ў нас кралі —
Тваю зару між рэк,
Азёр тваіх каралі.

Чароды новых дзён,
Як долю, ты страчала —
Арала, брала лён,
Палола, пела, жала.

Ды зноў чужак, бы цмок
(Дзе лік паганцам-цмокам?),
Цішком цябе здалёк
Высочваў хіжым вокам.

І, падабраўшы міг,
Ужо капыціў долы.
Як стрэхі хат тваіх
Тады палалі ў полымі!

Сама ж пад стук падкоў
Ты паланянкай нема
Пры сёдлах крыжакоў
Крычала, звала неба.

Той крык сынам тваім
Ірваў душу, бы пешняй.
Сыны па краі ўсім
Сядлалі коней спешна.

І вось той зграі ўслед
Па балатах, па гонях
Не віхар мчаў праз свет —
Крывіцкая пагоня!

Чуў млосць ажно ў касцях
Крыжак, як, заяснелы,
Ўваччу ўзвіваўся сцяг
Твой бел-чырвона-белы.

У спіны ж — уцячы б! —
Храплі ўжо коні ў гоне.
Імгненне — і мячы
Скрыжоўваліся ў звоне.

Кіпеў пад небам бой —
І ходкая сякера
Шукала пад бранёй
Ужо крыжацкі чэрап.

Як ворага рады
Пагоні сталь палола,
Не знаў ён ад жуды,
Дзе дзецца ўжо з палонам...

І так спрадвеку ты
Страчала каля гоняў
Навалу сваты,
Свой бараніла гонар.

А хто ж за гонар твой
Здалее ўстаць сягоння?
Дзе, за якой гарой
Цяпер твая Пагоня?

Як мы не збераглі
Агонь яе праз вёсны?
Як упусціць маглі
Уласнай долі вёслы?

Парою найліхой
Перадалі ў бязволлі
Мы новай сіле злой
Сябе, свой край і долю.

Нам так яе ў той час,
Пагоні, не ставала,
Як ліха з ліха
Нас
Тугім шнурком вязала,

Як скрозь —
Што той Нагай! —
Пад сцягам найкрывавым
Пайшоў гуляць наган —
Яго закон і права!

Гукаць бы — бойся, гун! —
Пагоню нам і ў час той,
Калі з пятлёй хапун
Па нашых хатах шастаў

Ды нас у золь-туман
У ямы клаў пластамі,
Каб д'ябальскі свой план
Перавыконваць намі...

Ну, а калі з нябёс
Якісь бандыт чарговы,
Пульнуўшы ў хмару, трос
Нам трасцу на галовы,

На жыта, на гады,
Смяротную, на скроні,
Нам трэба б і тады
Было ўздымаць Пагоню!

Ды хто б яе гукаў!
Мы дома — горш, чым госці:
Залежым ад кіўка
Брывянага чыйгосьці.

## *Яма*

Пакуль яшчэ ў яме усе мы,
у яме!
Мы толькі вылазім
з той ямы глыбокае
з вамі!

У гэтую яму —
у Светлую Яму Вялікую —
Так правадыры нас
наймудрыя
клікалі!

У казанях іх,
што лавіла, як манку,
краіна ўся,
Яна за ўсе сонцы ярчэй
прамянілася!

Казалі яны нам,
што шчасце,

---

# Не забываецца...

**Янка Брыль**



## Усё

Ніколі невядома, дзе што згубіш, дзе што знойдзеш.

У наваполацкай гасцініцы, слухаючы па рэпрадуктары абласную радыёперадачу, раптам пачуў ад вясковага дзеда такое акрэсленне нашай «галоснасці» — няціхота.

«А што цяпер няціхота такая, дык гэта добра!..»

У народа ёсць усё.

## Вясёлы Маўр

Нешта хутка пасля вайны, у гуртку па вывучэнні гісторыі партыі, адзін з нашых выказаў недаўменне:

— І няўжо яны, капіталісты, не бачаць, што наша ідэалогія вышэйшая, што яна пераможа?

— Вы мне нагадваеце аднаго знаёмага ксяндза, — сказаў на гэта Іван Міхайлавіч. — Той таксама здзіўляўся: як гэта ўсе людзі не бачаць, што пан Бог — толькі каталіцкі?!

А ў шэсцьдзесят шостым я запісаў такое:

— Паслухай, Брыль, як я галасаваў. Работніца наша захварэла, дык ёй прынеслі урну. Паглядзеў я і кажу: «А можа, і мне, старому чалавеку, можна дома прагаласаваць?» Дазволілі. Малады сінявокі балван стаў перада мною ў позу і пачаў: «Голосуя за блок коммунистов и беспартийных, мы голосуем за нашу могучую индустрию, за дальнейшее процветание нашего сельского хозяйства, за...» І панёс, і панёс! Я выслухаў, устаў з канапы. «Во имя отца и сына, и святага духа. Аминь». Перахрысціўся акуратна і ўкінуў у тую урначку свой чысценькі бюлетэнь. Ой, кажу табе, — трэба было бачыць, як ён, мой сінявокі, аслупянеў ад нечаканасці!..

На любым пісьменніцкім сходзе, калі нешта галасавалася і вядучы дзеля формы, па прыкладу вышэйшых паседжанняў, не гледзячы ў залу, пытаўся «хто за?», яшчэ і «хто супраць?», і «хто ўстрымаўся?», стары Маўр быў абавязкова ці супраць, ці ўстрымліваўся. Узнятая рука — адна на ўсіх. Усе да гэтага прывыклі. А калі хто з новенькіх ды службовенькіх недаўмяваў, пытаўся, а чаму тут такое, не так сабе вясёлы дзед — былы рэвалюцыянер, географ, эсперантыст — адказваў: «У нас дэмакратыя». Сур'ёзна і без клічніка.

## Згадка

Пра Чорнага мне было жыва, хораша згадалася здалёк, з Польшчы, з Зялёнагурскага ваяводства.

Гаварылі нам пра славутых сілезскіх ткачоў, — не толькі пра іх умельства, але і пра тое, што ім было цесна ў родных мясцінах, і яны ездзілі, а то і хадзілі далёка ў людзі, шукаць работы, хлеба, месца на Зямлі.

І ў Беларусь траплялі.

А потым — і на старонкі яе грунтоўна таленавітага летапісца.

Праз год, на васьмідзесяцігоддзі Мікалая Карлавіча, у Цімкавічах, я гаварыў пра гэта ў сваім выступленні каля школы, перад землякамі патомнага парабка, якому жорсткі час не даў стаць нашым Бальзакам, гаварыў у яго роднай вёсцы, якой яму прагатыпна хапіла б, як ён казаў, на ўсё яго творчае жыццё.

Ён спадзяваўся, вядома, на доўгае, плённае. Не на сорак чатыры гады. Уключна з арыштам, катаваннямі, турмой і немаччу на апошняй свабодзе...

## Любіць і ахоўваць

Нешта ў пачатку пяцьдзесят сёмага года, на пісьменніцкім пленуме, Кандрат Крапіва гаварыў пра лёс нашых сатырыкаў. Ён яму нагадвае тых лекараў, якіх даўней, у змрочным сярэдневякоўі, калі пачыналася якая эпідэмія, натоўп раз'ятрана мардаваў, бо лічылася, што гэта ад іх, ад медыкаў, чума ці іншая халера...

Гэта не трапіла ні ў друк, ні ў стэнаграму.

Не надрукавалі і яго выступлення на рэспубліканскім з'ездзе настаўнікаў у жніўні шасцідзесятага. Не надрукавалі поўнасцю, абкарнаўшы да бяззубага стандарту. А на другі дзень, на вячэрнім паседжанні таго з'езда, дзве знаёмыя камсамольскія кар'ерыстачкі, седзячы ў прэзідыуме абапал мяне, шэптам, уперабіўку расказвалі мне, што было ўчора, калі я не быў, абураліся паводзінамі «гэтага дзіўнага Крапівы», якому трэба было б «усыпаць», і як быццам нехта ўжо «ўсыпаў» за тое, што ён — падумаць толькі! — заклікаў любіць і ахоўваць беларускую мову. Сказаў нават, што ў настаўнікаў, як і ў пісьменнікаў, гэта — святы абавязак!..

## Назола

Пры дарозе з Алма-Аты ў Талды-Курган мы, група ўдзельнікаў дзён літаратуры ў Казахстане, аглядалі авечы адкормачны комплекс.

Лета семдзесят чацвёртага. Гарачыня — як вытрымаць. Дзве неабсяжныя прасторы — млосна-бясхмарнае неба і рыжа-спалавелы стэп. Церпкі пах безлічы светла-шэрых жывых кажухоў. Яшчэ і нейкія прамовы, і расказ пра дасягненні...

Ах, як не хочацца называць, і не буду, бо ў гэтым ён вельмі далёка не ўвесь, добры рускі пісьменнік, які і тут, каторы ўжо дзень з ранку да вечара ледзь-ледзь трымаецца на нагах. Горка скажам: як ад імя свайго вялікага народа — перад народам меншым.

Стоячы ў гурце ззаду, раскіслы твар «старэйшага брата» бачыў я толькі памяццю. І тое зблізку бачыў, як адзін з гаспадароў, што сустракалі нас, кіраўнік раённага рангу, пад гальштукам і ў капелюшы, слухаючы прамову яшчэ вышэйшага, ціха, старанна, урачыста — як ад імя казахскага народа — раз-поразу зганяў з прыгорбленай спіны маскоўскага госця, які стомлена пагойдваўся, сярэднеазіяцкую назолу-муху...

## Абыходзімся

На з'ездзе украінскіх пісьменнікаў.

І ў дакладзе, і ў выступленнях усё так гладка ды сонечна. А два таленавітыя, якім бы толькі радаваць чытача, — Грыгір Цюцюннік і Віктар Блызнец, — «за справаздачны перыяд»... павесіліся.

І пра такое — ані слова...

Запісаў я гэта ў сакавіку восемдзесят першага года. Цяпер гаворыцца: у час застою.

У кастрычніку восемдзесят сёмага, выступаючы на ўсесаюзнай творчай канферэнцыі ў Ленінградзе, Алесь Ганчар сказаў (перакладаю з «Літературної України»):

«Хіба ж можна было атмасферу такой адчувальнай духоўнай прыгнечанасці лічыць спрыяльнай для развіцця літаратуры і культуры ва ўсіх яе адгалінаваннях? І ці не таму ў тыя застойныя гады трагічна ішлі з жыцця маладыя найдаравіцейшыя людзі з асяроддзя нашай творчай інтэлігенцыі?..»

«Литературная газета», перадрукаваўшы гэтае выступленне, без другога сказа ў маёй цытаце... абышлася.

А ўжо ж, калі сапраўды «галоснасць», дык Ганчар мог бы хоць дома, у Кіеве, назваць імёны тых, што самахоць пагінулі.

## Дружба

Савецка-польскія ветэраны другой сусветнай вайны, набліжаючыся да канца свайго шляху Разань — Шчэцін, мы павінны былі звярнуцца — у імя найважнейшай справы — да ўсіх пісьменнікаў свету.

Праект звароту напісалі гаспадары, палякі, на чале з Войцехам Жукроўскім. А рэдагаваць яго з незразумела поўным правам узяўся кіраўнік нашай савецкай дэлегацыі, чыноўнічак з маскоўскага апарату Саюза пісьменнікаў, таварыш Нятой, якому за тым Жукроўскім, як літаратару, толькі б чамадан падносіць.

Аказёньвае тэкст, абанальвае. Палякі пярэчаць, даводзяць сваё, для справы безумоўна лепшае. А ў нашага — апошні аргумент:

— Я что — из-за тебя должен свой партбилет положить?!

Праўда, было гэта ў канцы восемдзесят трэцяга.

## А што вы думаеце

З нестарою цёткай каля студні.

— На калхозным, — гаворыць яна, — дык і трава лепшая, і картопля лепшая, чым у людзей...

— А чаму? — пытаюся. — Бог так распараджаецца?

— А што вы, Антонавіч, думаеце? Чалавек усё-такі неяк выкруціцца, а калхозу не дай урадзіць — яму тут і хана!..

І смяецца. Пры другой жанчыне, старэйшай, якая таксама ўсміхаецца.

## Культура гандлю

Пісьменнік, што любіць падтрымліваць сувязь з вёскай, з працоўным народам, таргуе на Камароўскім рынку тварожны сыр.

Бойкая цётка:

— Бяры, браток. Вось хутка наша пакаленне вымра, у вёсках не застанецца нікога — скулу тады купіш. Бяры. Сырок настаяшчы.

## Вёска

— Якая там, браце Іване, вёска цяпер! Восемдзесят два двары, а на работу выходзіць дваццаць два чалавекі! Дый то адны бабы. Бо куды ж тут мяне ці Арсена лічыць? Толькі дрэбы... Раней я кумам часта быў. Падлічыў неяк — аж дванаццаць разоў. А цяпер? Цяпер мяне толькі ямы капаць і клічуць. Людзі ж усё паміраюць, вядома старыя. Рукі ўжо мне паўрывала лапатай. А як не пойдзеш, не паслухаеш?..

## Духоўнасць

Група пісьменнікаў у перадавым калгасе на Браншчыне. Пасля агляду гаспадаркі — гутарка ў праўленні. Паэт Дзмітрый Кавалёў, часцей за ўсё неспакойны, сказаў-спытаўся:

— Поспехі вашы і сапраўды значныя. І на палях, і на фермах, і людзі жывуць нядрэнна. Ну, а духоўнае жыццё, — што для душы?

Праслаўленага старшыню калгаса выручыў сам сакратар райкома, «парень-рубаха», «в доску свой, народный»:

— Калі чалавек добра наесца, тады з яго і выходзіць душа. Га-га-га!..

## Спакойна!

У школе, на бацькоўскім сходзе.

Сын двоечнік, другагоднік. А бацька, няраслы адстаўны палкоўнічак, увесь у

# ВЕЛІКОДНЫ ТЫДЗЕНЬ

**Трэцяя вандроўка ў Полацк**

## Яднанне

Прызнаемся, грэшныя: усе мы разам вельмі многае страцілі. Развучыліся проста радавацца пражытаму дню і адпачываць на святы: усміхацца і давяраць адно аднаму, а не пасміхацца і зайздросціць; паважаць чалавека і цярпець чужыя перакананні; цаніць ветлівасць і не спускаць з языка словы злыя ды брыдкія...

Знясіленыя ад зла ды нявер'я людзі ўжо спрабуюць вярнуць у агульнаграмадскі ўжытак некалі пад корань высечаныя паняцці: Храм, Пакаянне, Пропаведзь... Няма свабоды сумлення — няма і сумлення, а без яго далейшае жыццё робіцца немагчымым. А высокае мастацтва? Вядома, яно заўсёды ствараецца і жыве паводле законаў свабоднага сумлення, заўжды нясе ў сабе духоўнасць. Для людзей нераўнадушных сустрэча з высокім мастацтвам — як прыход у храм, дзе ёсць і пропаведзь, і споведзь, і малітва. Тым больш, калі адбываецца сустрэча ў сапраўдным храме.

Храм, сабор, саборнасць, збіранне ў адно, яднанне... Зноў Полацкая Сафія сабрала гасцей на Усесаюзны фестываль старадаўняй і сучаснай камернай музыкі. Сёлета ўжо трэці, ён прысвячаўся 500-годдзю Скарыны. Адкрываў яго (традыцыя!)



Крыжаўзвіжанская царква.



14—15 красавіка. Усяночная.

Дзяржаўны камерны хор СССР пад кіраўніцтвам В. Палянскага.

Хор спяваў духоўную музыку: канцэрты Д. Бартнянскага, фрагменты з літургій С. Рахманінава і П. Чайкоўскага. Дзівосная музыка: сілкуе дух... Сам хор з першымі ж гукамі ператвараўся ў нейкую невытлумачальную істоту, чыя высакародная духоўная энергія працінала паветра ў храме, пранікала ў святая святых чалавека — душу, яднала на гэтыя хвіліны зусім розных людзей.

Палачане ўмеюць слухаць і прымаць музыку. Але такога яшчэ, здаецца, не бывала. На фоне авацый і воклічаў залы звінела-ўспыхвала неверагодна суладнае «Брава!» — гэта зверху, з хораў, гукала капэла полацкіх ды наваполацкіх настаўнікаў, створаная зусім нядаўна. Яна ж мілагучнымі спевамі вітала і адкрыццё фестывалю. А яшчэ ўразілі (і ўражвалі штодня) ружы: гэткімі свежымі вытанчанымі кветкамі ў Мінску адорваюць толькі «выбраных». Тут — усіх гасцей.

**Такі быў пачатак — 14 красавіка, напярэдадні Вялікадня. І хрысціянскі дух старажытнага людскога свята, сёлета ўжо разняволенага, адзначанага шырока, лунаў і ў сценах Сафіі.**

**Амаль уся праграма фестывалю ўспрымалася гарманічна з высакароднай архітэктурай сабора.**

**У адзін з вечароў, калі В. Палянскі выступаў і як аркестравы дырыжор за пультам Дзяржаўнага камернага аркестра БССР (таксама традыцыя!), прагучала «Літургія дамесьтыка» А. Грачанінава, створаная для хору, аркестра і аргана (салістка Л. Голуб).**

**Храмавая акустыка рабіла «анёлападобнымі» спевы дзіцячага хору «Вясна» (кіраўнік А. Панамароў, Масква).**

**У гэтых сценах не была чужаніцай фартэпіянная музыка, прадстаўленая ў канцэрце А. Бахчыева і А. Сарокінай. «Жывой хрэстаматыяй жанру» названы гэты унікальны ансамбль у адным з апошніх нумароў «Музыкальной жизни». Палачане ці не ўпершыню пабачылі за адным раялем дуэт, які грае творы для 3—4 рук. Прытым прафесар А. Сарокіна захоплена каменціравала праграму. І слухачы падарожнічалі ў Лондан XVIII стагоддзя, на радзіму фартэпіянных дуэтаў, знаёміліся з творчасцю заканадаўцы тагачасных музычных густаў Ч. Бёрні. Пераносіліся ў Францыю, дзе дасюль існуе знакамітая фірма раяляў, два стагоддзі таму заснаваная І. Плеелем — у свой час яго не абмінула слава кампазітара, вартага параўнання з Гайднам, але цяга да камерцыі перамагла творчы дар...**

**Паслухалі опусы і гэтых, і іншых сучаснікаў Моцарта, названага Чайкоўскім «Хрыстос у музыцы». А Моцарт вянчаў выступленне дуэта: сярод іншага была саната, створаная дзевяцігадовым геніем, і Фантазія фа мінор, напісаная за тры месяцы да ягонага скanання.**

Скрыпачка, педагог Святлана Бязродная і створаны ёю «Вівальдзі-аркестр». Унікальны жаночы ансамбль (адзіны мужчына тут іграе на ўдарных, гэта В. Раманенка, якога часам запрашаюць у свае праграмы «Віртуозы Масквы»). Існуе толькі год, а ўжо не раз быў госцем у Мінску, Віцебску, Полацку. Два фестывальныя вечары — дзве непаўторныя праграмы: «Поры года» А. Вівальдзі, «Дзіцячы альбом» П. Чайкоўскага, «Дзіцячая сімфонія на тэмы Гайдна» бацькі В. Моцарта — Леапольда, канцэрты І.-С. Баха і сімфонія ягонага сына Вільгельма-Фрыдэмана, танцавальная музыка Вены XVIII—XIX стагоддзяў. Поспех — неверагодны. Па аўтограф да С. Бязроднай выбягалі проста на сцэну.

Пасля канцэрта мне давялося прысутнічаць пры вельмі кранальнай размове. Узрушаны малады чалавек, які падышоў да Бязроднай па аўтограф, між іншым расказваў пра сябе. Армянін, з Нагорнага Карабаха, два гады жыве ў Полацку — працуе па размеркаванні. Заўсёдны слухач канцэртаў у Сафіі. Даводзіў, што ягоным землякам «там» вельмі цяжка цяпер, што ім патрэбна маральная падтрымка, дабрыня мастацтва «Вівальдзі-аркестра», прыезд калектыву з канцэртамі. «А вы ведаеце што? — задумалася С. Бязродная. — Я зараз падарую вам фатаграфію. Яна зроблена нядаўна, на святкаванні 90-годдзя Казлоўскага. Ён вельмі добры чалавек, і, можа, думка пра ягоную дабрыню неяк сагрэе вашу душу, і гэта будзе дапамагаць вам перажываць смутак. А наконт канцэртаў — дам каардынаты людзей, ад якіх залежыць арганізацыя нашых гастроляў...»

Мы хораша пагаварылі са Святланай Барысаўнай — пра музыку, пра яе калектыў, у якім іграе і наша зямлячка, выпускніца БДК кантрабасістка Надзя Гайдай, прынятая ў ансамбль у выніку ўсесаюзнага конкурсу.

Праз тыдзень я ўбачыла «Вівальдзі-аркестр» на тэлемарафоне «Чарнобыль». Сыгралі; кіраўніца папрасіла слова, успомніла пра сваіх беларускіх сяброў, што, мабыць, сабраліся ля экранаў, аддала вядучай перадачы канверт з асабістым грашовым узносам — на выратаванне ад бяды, якая паяднала ўсіх. У Маскве было дзве гадзіны ночы...

## Айцец Сергій

Вакальны ансамбль «Благовест» падарыў фестывалю вечар духоўнай музыкі. Хор увогуле не свецкі, яго ўдзельнікі раней спявалі ў адным з маскоўскіх храмаў, ды, заняўшыся асветніцкай дзейнасцю, былі вымушаны «разысціся» па розных цэрквах, каб на час канцэртных вандровак не пакідаць прыхаджан без хору. Сёння «Благовест» (рэгент Г. Кальцова) мае падтрымку за мяжой, у яго цікавыя запрашэнні; нядаўна спяваў у Зальцбургу, на радзіме Моцарта, у «ягоным» храме, у прысутнасці епіскапа. Быў хор і ў Мінску, на І фестывалі духоўнай музыкі.

Калі «Благовест» выйшаў на сцэну Сафійскага сабора, адзін з пеўчых павіншаваў «братоў ды сёстраў» са святою Пасхай, мовіўшы: «Христос воскрес!» У адказ хтосьці нясмела запляскаў у ладкі, але тут жа зала спахапілася, дружна працягнула: «Воистину воскрес!» Пачаўся канцэрт з каментарыя: што ёсць літургія, з чым звязана кожная яе частка, як трэба слухаць...

Уражвала строгае і вельмі мяккае гучанне ансамбля, салісты з прыгожымі галасамі, аксамітная неруш паўз. І авацыі залы. І шчодрае спяванне на «біс». І тое, як стоячы слухала публіка выкананае двойчы «Многолетие» («Многая лета»).

**Так, быў велікодны тыдзень. Напярэдадні свята я і прыехала ў Полацк, бачыла людзей, што апанавалі аўтастанцыю: з клункамі, з тортамі. (А ведаеце, мінчане: у Полацку — Наваполацку свежы торт можна было купіць і пад свята ўвечары, і ў звычайны выхадны дзень, ды нават «Птушынае малако»!). Я дык з аўтобуса — на канцэрт; потым трэба было ехаць у Наваполацк, уладкоўвацца ў гасцініцу, адпачываць пасля бяссонай ночы і шасцігадзіннай дарогі. Ехаць на Усяночную да царквы не выпадала, але можна было глянуць тэлетрансляцыю з маскоўскага храма, каб уранні па ўсіх правілах разгавецца прывезенымі з Мінска пафарбаванымі яйкамі. Рытуальная ежа была і сціплым камандзіровачным сняданкам...**

**Мой полацкі знаёмец ездзіў той ноччу ў Спаса-Ефрасіннеўскі манастыр, з дазволу (благаславення) Уладыкі фатаграфаваў свята. Расказваў, што доўжылася яно гадзін шэсць. Людзі ставілі свечкі, спявалі, праходзілі вакол царквы... Служба была ў адноўленым Крыжаўзвіжанскім храме. Як жа не наведацца туды, не глянуць, што ж змянілася за год?**

Не ўсё пазнала ў гэтым запаветным кутку, над якім лунае неўміручы дух Прадславы-Ефрасінні. Ужо вызначылася манастырская тэрыторыя, з'явіліся начаткі паркана. У малюсенькім расчыненым акенцы дамка, што ля брамы-званіцы, застыў на поўны рост, як фотка ў рамачцы, белы кот. Ды паназіраць за ім не давялося: позірк міжволі пераключыўся на высокія асляпляльна светлыя сцены. Што ж тут было мінулым разам? Вялікая царква, якая два гады таму здавалася непапраўна разбітаю — рудая патрушчаная цэгла, ды яшчэ розныя варварскія надпісы, жывога месца няма. І летась амаль тое ж, толькі вакол ужо нехта працаваў на рыштаваннях ды ззялі абноўленыя купалы з крыжамі; вось што значыць — трывалы падмурак: тады і перабудову, ці адбудову, можна пачынаць зверху. Цяпер гэта бялюткі, з зіхоткімі «галоўкамі», гмах. Быццам апусцілі яго з неба, паставілі на гэтую змучаную, недагледжаную зямлю.



Ансамбль «Благовест».



«Камерата» (жаночая група).

Крыху далей — знаёмая, крохкая з выгляду, але вечна загадкавая Ефрасіннеўская царква. А справа — падноўленая «зімовая». Дзейнічаюць усе тры. Праўда, Крыжаўзвіжанская не зусім яшчэ вызвалілася ад рыштаванняў, на непатынкаваных баках відаць сляды вайны і «мірнага» вандалізму. Дый унутры рамонт не скончаны. Для набажэнстваў у прасторным вялікім храме ёсць пакуль толькі самае неабходнае, іканастас таксама часовы.Як будзе далей? Кабеты на падворку параілі пагаварыць пра гэта з айцом Сергіем. Кватаруе ён побач з мірскім людам у тым самым двухпавярховым дамку ля брамы.

Дом спрадвек належаў манастыру, пакуль не змяніліся часы. Вядома, яны мяняюцца ізноў, неўзабаве Спаса-Ефрасіннеўскі манастыр будзе цалкам адроджаны, яго колішнія пабудовы вернуцца ва ўласнасць царквы. Нават адкрыецца жылы дом для паломнікаў — накшталт гасцініцы. Ужо ў верасні пераселіцца сюды больш за паўсотню манашак з Жыровіц, да іх далучацца і тутэйшыя сёстры... А пакуль айцец Сергій запрашае нас з калегаю да сябе дамоў, папярэдзіўшы: «Жывём сціпла, але з Богам».

Увайшоўшы з вуліцы, мы, аднак, не адчулі хатняга цяпла. Цёмны агульны калідор, сыраватае паветра; вялікі таз пад рукамыйнікам, керагаз на стале; ажурныя парэнчы лесвіцы, што вядзе на другі паверх. Быццам бы азірнуліся ў канец 40-х, ідучы следам за айцом Сергіем да ягонай кватэры. Апынуліся ў невялікім сціпла абсталяваным пакоі, толькі што адрамантаваным. Большасць жа кватэр у гэтым і ў падобным суседнім доме занядбаныя, абодва будынкі ў аварыйным стане, а ў іх жа, нагадаў наш субяседнік, неўзабаве павінны засяліцца манашкі. Аказваецца, мітрапаліт Мінскі і Гродзенскі Філарэт, Патрыяршы Экзарх Беларусі, перадаў гарадскім уладам Полацка буйную суму грошай на тое, каб для насельнікаў гэтых пабудоў зрабілі сучаснае жытло, а вызваленыя імі манастырскія дамы адрамантавалі. Ды справа ідзе марудна.

Назаляць духоўнай асобе сваёю цікаўнасцю было ніякавата, але сам сабою пацягнуўся ланцужок пытанняў: якое месца зойме мова Скарынавай «Біблії» ў царкве яго роднага горада? хто будзе афармляць інтэр'ер Крыжаўзвіжанскага храма? ці зменіцца тут парадак з прыходам манахаў?..

**Айцец Сергій і сам задаваў пытанні, а распавяд перамяжаў прыпавесцямі з уласнага вопыту, біблейскімі выслоўямі. Паказаў велікоднае пасланне мітрапаліта Філарэта, напісанае па-беларуску, як знак таго, што ў праваслаўную царкву беларуская мова прыйдзе. (Дарэчы, сам айцец Сергій з Полаччыны і на родную мову не забыўся). Наконт роспісу храма казаў, што фрэскі свецкім мастакам не даверацць рабіць — пасля заказаных ім і забракаваных тутэйшым Уладыкам абразоў (а той сам дасведчаны ў іканапісу). Можа, запросяць нават замежных майстроў. З дапамогай замежных спецыялістаў будуць адліты і званы.**

**Уклад жыцця манахаў не дазволіць рабіць поруч справы мірскія: вянчанне, хрышчэнне. Для такіх абрадаў праваслаўныя ў Полацку просяць Багаяўленскі сабор, дзе месціцца карцінная галерэя, частку амаль рэканструяванай да свята Скарыны брацкай школы, дзе запланаваны музей кнігадрукавання. А едуць у Полацк прыхаджане і з наваколля, адусюль, дзе былі разбураны цэрквы: з Шуміліна, Расонаў, Узды... На Вялікдзень, кажуць, тысяч пяць з'ехалася.**

**Цяперашняе жыццё Сафіі айца Сергія не радуе, бо храм скарыстоўваецца не па спрадвечным прызначэнні: устанавілі арган, ладзяць фестывалі. Таму, маўляў, і крыж з купала зваліўся...**

Крыжа (разам са шпілем) і сапраўды няма на адным з купалоў, і відовішча гэтае нават палохае. Але ж крыж з храма не падаў: яго знялі на рэстаўрацыю. І зусім не з прычыны канцэртаў. Нам казалі, як мінулым летам, скарыстаўшы рыштаванні, нейкі нячысцік узбіўся на купал Сафіі, асядлаў крыж і пагушкваўся, пакуль той не пагнуўся.

«У свеце ёсць толькі двое: Бог і Сатана, трэцяга не дадзена», — раз-пораз паўтараў айцец Сергій. І раіў: чытайце Біблію, з яе пачынаў кожны працоўны свой дзень вялікі Пушкін, таму і зрабіўся самым мудрым паэтам ва ўсім свеце.

А ў свеце ёсць толькі... Каб жа ўсім было дадзена гэта зразумець!

## «Абсурдысты»

На паркеце ў фае філармоніі нерухома ляжаў чалавек. Пад ім было відаць палотнішча — белае са скрыжаванымі чырвонымі паласамі. Чалавек ляжаў, няўклюдна выкруціўшы бледныя далоні і ногі ў чорных чаравіках, тварам уніз. Зрэшты, твар вызначыць было немажліва: усю галаву, шыю закрывалі акуратныя віткі бінту. На спіне гэтага ці то манекена, ці то муляжа дэманстрацыйна ўзвышалася галава свінні — без вушак, з пабурэлым лычом — ну проста з гастранома. Не адразу рабілася зразумелым, што прыціснутая ёю спіна...дыхала!

**Увойдзе ў гісторыю фестывалю «Мінская вясна» вельмі ўжо неспадзяваная, нават для занятых у канцэрце нашых музыкантаў, гэтая акцыя ў антракце — І. Кашкурэвіча і Л. Рысавай. Мастакоў, удзельнікаў праграмы «Музыка падсвядомасці» (поруч з інструментальным ансамблем «Класік-Авангард», вакальнай групай «Камерата», шведскім паэтам-абсурдыстам Э. Лапалайненам). У Полацку разам з музыкантамі мы ўспаміналі гэты эпізод. Аказалася, у адносінах да іх пачало рабіцца тое, што на зразумелым для ўсіх жаргоне называюць «шыць палітыку». Бо кагосьці з начальства шакіравала (у нас жа тут з вамі не заграніца, хоць і Еўропа) дзёрзкае самавыяўленне-пратэст мастака. А выканаўцы спадзяваліся, што прыцягнуць увагу незвычайнай сваёй творчасцю (авангардныя кампазіцыі ў вакале — гэта пікантна і ўнікальна!), адчуюць афіцыйную падтрымку. Наіўныя! У нас на ўсю культуру тыя ганебныя 0,7 працэнта. У чарзе на «працэнты ад працэнтаў» трансавангард, падсвядомасць, абсурдысты яўна лішнія.**

**Праўда, іх любіць і чакае публіка. Маладая, інтэлектуальная. Як прымалі тую ж «Камерату» ў Мінску, у Полацку! Хоць, канечне, акустыка Сафійскага сабора — не для спецыфічнай эстэтыкі ансамбля, прыладжанай да сучасных гукатэхнічных эфектаў. «Камерата» і прыехала сюды без мікрафонаў, і карэкціравала звыклую для сябе манеру спявання, і хай без выдаткаў не абышлося, публіка ўсё ж упадабала трактоўку джазавай класікі, негрыцянскіх народных песень ды арыгінальных кампазіцый кіраўніка ансамбля А. Шыкунова і піяніста, кампазітара А. Пыталева.**

А я ўсё меркавала: чаму людцы гэтак дружна ўсхопліваюцца на барацьбу з незразумелымі для іх з'явамі, з нетрадыцыйнымі напрамкамі ў мастацтве, а заадно і з тымі, хто проста нечым вылучаецца сярод падобных да сябе? Чаму тыя людцы не скіруюць свой грамадзянскі гнеў ды абурэнне, ваяўнічы імпэт на барацьбу са з'явамі сапраўды небяспечнымі, згубнымі ў сваёй абсурднасці?

Полацк... Які «абсурдыст» знявечыў мудрую старасць горада, разгладзіўшы сляды пражытых вякоў? Папсаваў ягонае аблічча недарэчнасцямі накшталт адыёзнай дзевяціпавярхоўкі — на месцы ўзарванага ў сярэдзіне 60-х велічнага храма? Хто першы прыдумаў гэтак «амаладжваць» гістарычны вобраз нашай зямлі?

Чыё гэта штукарства паабапал шасейкі? Пыльныя палеткі, прарэзаныя нешырокімі каналамі, на бетонных берагах — чырвоным па белым: «Меліярацыя — зарука ўраджаю»; «Меліярацыя — дастаянне народа»... А для каго «абсурдыст» пакінуў лесвічныя спускі на абодвух берагах Дзвіны — нягеглыя, даўно пабітыя, ўтравелыя прыступкі ў нікуды?

І каму першаму ўспала на думку спускаць неачышчаныя прамысловыя ды бытавыя сцёкі ў светлую плынь рэк, «лятучую хімію» выкідаць проста ў паветра? Усё адно, што пэцкаць уласную талерку, ліць атруту сабе ў шклянку... Не ведаю, чым сілкуецца наваполацкі водаправод, але гарбату, настоеную на гэтай вадзе, піць брыдка. Не ведаю, якую грымучую сумесь выпускаюць «на свет цэлы» мясцовыя заводы, але ад глытка свежага ветрыку тут можа паблажэць.

**Сустрэла на фестывалі знаёмую музыкантку-палачанку, дык тая ці не ў слёзы: «Я гатовая пешкі бегчы ў Мінск. Псіхіка не вытрымлівае. Нас рэгулярна інструктуе служба грамадзянскай абароны — на выпадак выбуху на хімічным заводзе. Іх тут хапае, абсталяванне дапатопнае, ачышчальных прыстасаванняў быццам і зусім няма. Мітынгі, пратэсты людзей не дзейнічаюць: прадпрыемствы саюзнага падпарадкавання, гаспадар далёка. Бывае, нават употай па начах выпускаюць у паветра «хімію», а калі вецер, дык праз пяць мінут не толькі Наваполацку — і Полацку хопіць...» Паспрабуй знайсці суцяшальнае слова, калі мне самой не раілі ехаць сюды нават на тыдзень, калі сама збянтэжылася, пабачыўшы ля дзвярэй полацкай крамы лістоўкі ГА са зваротам да мясцовых жыхароў — што трэба рабіць у выпадку аварыі на хімпрадпрыемстве...**

Я ўпэўнена, што «абсурдысты», якія сваімі дзеяннямі, ці бяздзеяннем, ці маўчаннем набліжаюць экалагічны крах, бавяць час не на джазавых канцэртах, не ў тэатры абсурду, не ў оперы і не ў хатняй бібліятэцы, а менавіта на беразе рэчкі, з якой можна выцягнуць рыбіну на вячэру сабе ды дзеткам. А між тым, закідваць вуду ў нашыя рэчкі ўжо небяспечна...

## Вясна. Працяг жыцця

Нецярплівая сёлетняя вясна дражнілася саладкаватым пахам таполевых пупышак: яго не перабівала цяжкае індустрыяльнае дыханне горада. Дрэвы за які тыдзень прыбраліся ў майскую зеляніну, хоць да таго мая — ажно 10 дзён. На клумбах зацвілі прымулы, пачалі налівацца чырванню галоўкі цюльпанаў, і ўжо зусім бесцырымонна (ну, не чэрвень жа!) рассыпаліся па газонах ды пустках вясёлыя сонейкі дзьмухаўцоў; у зацішку паказаліся браткі.

Пад гасцінічным вакном лямантавала чайка: прысуседзіўшыся да галак ды галубоў, чакала свайго штодзённага кавалка булкі з сырам. Калі ласка... Толькі хто вас заўтра, птушкі, пачастуе? Апошні канцэрт — і з'язджае ўвечары наш «фестывальны дэсант».

Час дазваляе зайсці ў Багаяўленскі сабор, на выстаўку савецкага жывапісу 20—70-х гадоў з фондаў рэспубліканскага мастацкага музея. Пажылыя служыцелькі карціннай галерэі перамаўляюцца: «Можа, ім музыку ўключыць? — А якая ў вас музыка? — пытаюся. — Вельмі добрая». Праз хвіліну — уражанне такое, быццам проста з-пад купалаў, разам са святлом яснага ціхага нядзельнага дня — храм напаўняюць праваслаўныя спевы. Можна падняцца і на хоры — па высокіх стылых прыступках, кранаючы далонямі магутную кладку, дзе цагліны, здаецца, навек прыраслі адна да аднае...

Музыцы ў Полацку ёсць дзе і для каго жыць. Але што будзе з фестывалем?

**Яго арганізатар, дырэктар гісторыка-археалагічнага запаведніка, знаёмая нашым чытачам, і сёлета не дачакалася гасцей з Міністэрства культуры. Няўжо іх адсутнасць мог кампенсаваць указ аб наданні ёй, Т. Д. Рудавай, звання «заслужаны работнік культуры БССР»?.. Дарэчы, падхапіўшы гэтую навіну, «Вівальдзі-аркестр» зрабіў сюрпрыз: скончыўшы выступленне, С. Бязродная публічна павіншавала гаспадыню фестывалю, а ўдарнік В. Раманенка спусціўся са сцэны ў сваім чорным фраку і, галантна зняўшы белы цыліндр, уручыў Таццяне Давыдаўне букет руж. І зашчыравала (звыш праграмы!) святочная музыка: і марш, і вальс, і полька!**

**Дык вось, размова з дырэктарам пра наступны фестываль. Задумкі (прынамсі, запрашэнне замежных музыкантаў) ёсць. Але адчула я трывогу за лёс самога запаведніка. Праваслаўныя прэтэндуюць на Багаяўленскі сабор, брацкую школу, нават вядуць гаворку пра Сафію (хоць практыка вядомых рэлігійных цэнтраў сведчыць: можна спалучаць і манастыр, і духоўную семінарыю, і спраўляць вянчанне, хрышчэнне, адпяванне). Каталікі просяць аддаць Сафію ім (хоць ёсць магчымасць аднаўлення касцёла на руінах старых муроў).**

**Свяшчэнныя пачуцці веруючых, вартыя павагі іх правы. Ды надта дорага для ўсіх астатніх абыходзіцца выпраўленне колішніх трагічных памылак пабудовы новага жыцця. У горадзе спецыяльна не будавалі ні карцінную галерэю, ні канцэртную залу — узяліся адраджаць старызну, і то апошнім часам. Куды ж людзям свецкім падацца (а статыстыка паказвае, што такіх у нас 85 працэнтаў)? Дзе — скажу так — «свецкім хрысціянам» задавальняць эстэтычныя патрэбы, супакойваць душу?**



«Што скажа дырыжор?» Мінскія музыканты на рэпетыцыі.



Лаўрэат міжнароднага конкурсу Валерый ПАЛЯНСКІ пасля канцэрта.

**Адноўленыя Багаяўленскі, Сафійскі храмы, ужо амаль давезеная да ладу брацкая школа былі, як гаворыцца, па цаглінцы выпеставаныя рэстаўратарамі, дзякуючы энтузіязму супрацоўнікаў запаведніка, і не на сродкі царквы. Рэстаўрацыя знявечаных вайною помнікаў каштавала немалых грошай дзяржаве і Фонду культуры. Грошы можна вярнуць. Але які маральны, душэўны капітал укладзены ў тую ж Сафію: тры фестывалі з удзелам сусветна вядомых музыкантаў — ужо гісторыя і, калі хочаце, святая справа! Невыпадкова бываюць на канцэртах і духоўныя асобы. Дык ці па-хрысціянску гэта — усчынаць зараз спрэчкі вакол Сафіі, якая ўжо зрабілася храмам музыкі для соцень людзей?**

Веру ў працяг жыцця фестывалю, у працяг яго летапісу — у радыёфанаграмах, рэпартажах і нарысах, у пласцінках. (Сёлета, праўда, не выйшла ў тэрмін другая фестывальная пласцінка, хоць своечасова былі падрыхтаваны нават яе канверт, — у справу ўмяшаўся дырэктар Беларускага дома грампласцінкі, не разабраўшыся, адпрэчыў тую музыку як непатрэбную, але «пашумела» Рудава, і сяброўства з фірмай «Мелодия» зноў наладзілася).

Веру ў полацкую публіку. Самаадданая і цягавітая памочніца дырэктара, загадчыца канцэртнага аддзела Л. Емяльянава сцвярджае: публіка не расхалоджваецца, праяўляе да фестывалю ўсё больш гарачую цікавасць. Вось і тут: нядзеля, разгар дня, надвор'е цудоўнае, а людзі — на канцэрт.

Фестываль завяршыла прэм'ера «Курантаў», ананімнага зборніка XVIII стагоддзя ў канцэртнай транскрыпцыі В. Капыцько — работа Мінскага дзяржаўнага камернага хору, саліста В. Скарабагатава, інструментальнай групы; дырыжор І. Мацюхоў. Музычны помнік славянскай культуры, жыццё якога прадоўжылася амаль праз тры стагоддзі, — нагода для асобнай гаворкі. Таму пакуль ні слова пра «Куранты». Адзінае што — канцэрт меў поспех. Потым усе стоячы слухалі арган — фестывальную пастлюдыю (ці мо прэлюдыю да новых музычных сустрэч?).

І зусім банальнае: аўтобус да Мінска, плаўны надыход ночы... Убачыўшы за акенцам першыя зоркі, я чамусьці ўсю дарогу ўглядалася ў іх, быццам чакала адтуль нейкага сігналу.

С. БЕРАСЦЕНЬ.
Фота А. МАРЦІНКЕВІЧА.
Полацк. Наваполацк — Мінск.

# Логіка жыцця і стэрэатыпы мыслення

(Пачатак на стар. 5).

ецца І. Антановіч, М. С. Гарбачоў настойвае на тым, што Кастрычніцкая рэвалюцыя была гістарычнай неабходнасцю. На жаль, гэтае запэўніванне аніяк не аргументавана. Праўда, М. С. Гарбачоў гаворыць, што пры іншым падыходзе нас чакала не буржуазная дэмакратыя, а дыктатура. Але, па-першае, гэты аргумент сам мае патрэбу ў аргументацыі. Па-другое, наш Прэзідэнт у запале палемікі забывае на адну дробязь: горш за тое, што з намі адбылося, адбыцца ўжо ніяк не магло. Не думаю, каб дыктатура Карнілава ці каго-небудзь іншага магла б хоць аддалена параўнацца з чакаўшай нас дыктатурай Сталіна. Ва ўсялякім выпадку гісторыя не ведае яе прэцэдэнтаў.

Я схільны думаць, што ў якасці неабходнасці Кастрычніцкай рэвалюцыі ў дадзеным выпадку проста прымаецца сам факт яе здзяйснення. Але ж гэта не сур'ёзна! Вядома, усялякая з'ява мае сваю прычыну, беспрычынных з'яў у прыродзе не існуе. Аднак прычынная абумоўленасць з'явы яшчэ не робіць гэтую з'яву неабходнай. Калі чалавек трапіў у аўтакатастрофу і загінуў, адсюль зусім не вынікае, што ягоная смерць была неабходная, хоць яна і мела сваю прычыну. Кастрычніцкая рэвалюцыя, безумоўна, мела свае прычыны і прычыны досыць важкія. Але рабіць на гэтай падставе выснову, што яна была неабходная — значыць, змешваць прычыннасць з неабходнасцю. І. Антановіч — філосаф, доктар філасофскіх навук. Тым больш дзіўна, як мог ён заблытацца ў гэтых нават не трох, а дзвюх дыялектычных соснах.

Ці азначае гэта, што нам варта вярнуцца да 1917 года? Пачаць усё спачатку? На жаль, як немагчыма наноў пражыць жыццё, так немагчыма павярнуць назад гісторыю. Такога роду спробы былі б чысцейшай утопіяй. Ды і проста неразумна было б не скарыстаць той сацыяльны вопыт, які мы назапасілі за гэты час такім крывавым коштам. Мара пра «светлую мінуўшчыну» — такая ж маніла ўшчына, як і мара пра «светлую будучыню», у тым дагматычным яе вытлумачэнні, у якім яна вітае ў галовах артадаксальна мыслячых тэарэтыкаў і палітыкаў. Дык давайце ж перастанем, нарэшце, з упартасцю фанатыкаў адстойваць старыя міфы і спараджаць новыя. Толькі поўная праўда аб нашай гісторыі зарука нашай будучыні.

Каб скончыць з тэарэтычнымі праблемамі, пастаўленымі І. Антановічам, спынюся яшчэ на адным палажэнні. Гаворка пойдзе пра месца КПСС у палітычнай структуры грамадства. Падвяргаючы крытыцы «Дэмакратычную платформу», аўтар піша: «Замест канкрэтных прапаноў у дэмплатформе адна ідэя фікс: КПСС павінна адмовіцца ад авангарднай ролі ў грамадстве, ператварыцца ў партыю агульнадэмакратычнага тыпу. Апошняя ўстаноўка, лічу, зусім непрымальная для партыі, якая ўзнікла і развівалася як палітычная масавая арганізацыя, што выказвае і абараняе інтарэсы рабочага класа і ўсяго працоўнага народа».

Чытач, пэўна, ужо заўважыў, што дыялектыка не з'яўляецца моцным бокам І. Антановіча як тэарэтыка. Цяпер я вымушаны канстатаваць, што не ў ладах ён і з традыцыйнай, фармальнай логікай. Сказаць, што КПСС з'яўляецца партыяй і рабочага класа, і ўсяго працоўнага народа — гэта раўназначна таму, што сказаць: чалавечая супольнасць складаецца з жанчын і людзей. Так і хочацца заўважыць: калега, логіка «так не ходзіць». Але не гэта нават галоўнае. Важна іншае. Калі КПСС з'яўляецца партыяй рабочага класа, дык яе ідэалогія і палітыка павінны насіць класавы характар. Калі ж яна ёсць партыя «ўсяго працоўнага народа», дык, наадварот, яе ідэалогія і палітыка носяць агульнадэмакратычны характар. Але тады яна і ёсць менавіта партыя «агульнадэмакратычнага тыпу». Палітыка таксама «так не ходзіць», як прапануе ёй хадзіць І. Антановіч.

КПСС, якая вядзе сваю радаслоўную ад РСДРП, канстытуявалася, насуперак меркаванню І. Антановіча, як партыя рабочага класа, а яе авангардная роля пастулявалася, зыходзячы з тэзісу класічнага марксізму аб асаблівай гістарычнай місіі пралетарыяту. Прычым такая палітычная ўстаноўка арганічна вынікала для Маркса (і марксістаў) з агульнага яго погляду на гістарычны працэс і лёс класаў. Маркс лічыў, што ход развіцця капіталістычнага грамадства з яго канкурэнтнай барацьбой заканамерна вядзе да палярызацыі двух грамадскіх класаў: на адным полюсе аказваецца пралетарыят, які складае пераважную большасць грамадства, на другім — буржуазія, якая ўяўляе сабой нікчэмную меншасць. У выніку сацыялістычнай рэвалюцыі, якая ў гэтых умовах становіцца непазбежнай, пралетарыят ліквідуе не толькі буржуазію, але і самога сябе як асобныя класы грамадства, паколькі буржуазія, пазбавіўшыся ўласнасці, перастае быць буржуазіяй, а пралетарыят, набыўшы гэту ўласнасць, перастае быць пралетарыятам. Інакш кажучы, і буржуазія, і пралетарыят у выніку сацыялістычнай рэвалюцыі пазбаўляюцца сваіх класавых прыкмет. Са сказанага павінна быць зразумела, чаму і ў якім сэнсе камуністычная партыя, на думку Маркса, будучы партыяй рабочага класа з'яўляецца адначасова з гэтым і партыяй «усяго працоўнага народа»: адбываецца татальная пралетарызацыя «працоўнага народа».

Цяпер мы ведаем, што гісторыя, прынамсі ў гэтай частцы яго тэарэтычных уяўленняў, пайшла не па Марксу. Тэндэнцыі развіцця сучаснага капіталізму паказваюць, што ніякай пралетарызацыі грамадства не адбываецца. Наадварот, доля рабочага класа ў грамадскай вытворчасці няўхільна змяншаецца. Збядненне пралетарыяту, якое прагназіравалася Марксам, таксама не адбываецца. Замежныя камуністычныя і рабочыя партыі ўжо зрабілі з гэтага адпаведныя высновы. Мы ж, як прававерныя дагматыкі, ніяк не можам «паступіцца прынцыпамі».

Але, можа, так справы абстаяць «у іх», а «ў нас» усё наадварот? Мне б не хацелася ўлазіць зараз у аналіз сацыяльнай структуры савецкага грамадства. Гэта завяло б нас занадта далёка ўбок. Але калі нават зыходзіць з той зацверджанай ілюзіі, што ў савецкім грамадстве ёсць два класы і «праслойка» — інтэлігенцыя (інтэлігенцыя — не клас толькі таму, што мы ніколі не прызнавалі ў мінулым і, мяркуючы па ўсім, не хочам прызнаць і сёння права інтэлектуальнай уласнасці і, як вынік гэтага, лічым зусім дапушчальнай звышэксплуатацыю разумовай працы), дык і ў гэтым выпадку ўсе гаворкі пра нейкую месіянскую ролю рабочага класа і яго партыі зусім беспадстаўныя і ў тэарэтычных адносінах, і па сутнасці. Ніякае асобнае, ніякая частка не могуць быць цалкам тоесныя агульнаму і цэламу. Гэта — азбука дыялектыкі. У перакладзе на мову рэальнай палітыкі гэта азначае, што ніводны клас па самой сваёй сутнасці не можа выказваць інтарэсы ўсяго грамадства, а значыць, і логіку гістарычнага працэсу. Ліслівячы перад рабочым класам, фарміруючы слой «рабочай арыстакратыі», якая ўжо даўно не адрознівае фрэзерны станок ад такарнага, але затое прадстаўляе рабочы клас у органах партыйнай і дзяржаўнай улады, выступае ад яго імя ў праводзімых кіруючай элітай кампаніях, пануючая бюракратыя адстойвае толькі свае ўласныя карыслівыя інтарэсы. Дзякаваць богу, сам рабочы клас пачынае гэта добра разумець.

Калі КПСС прэтэндуе на нейкую асаблівую ролю ў грамадстве, дык якія функцыі яна адводзіць іншым палітычным партыям, юрыдычнае права каторых на існаванне яна прызнала? Ці не функцыі тых дзіўных утварэнняў, якія яшчэ нядаўна называліся альтэрнатыўнымі палітычнымі партыямі і якія марнелі ў «краінах сацыялістычнай садружнасці»? Ёсць вельмі важкія падставы думаць, што сяму-таму іменна гэтага і хацелася б. Пытанне толькі ў тым, ці захочуць іншыя палітычныя партыі прымаць удзел у гэтым палітычным тэатры Абразцова? Мяркую, што не захочуць.

І час гэта зразумець. Нельга бясконца смяшыць народ. То мы насіліся з тым, што партыя сама пачала перабудову (і тут жа безнадзейна ад яе адстала — чаго б гэта?), як быццам не зразумела было, што перабудову пачала не партыя, а тая сумленная і мыслячая частка партыйнага кіраўніцтва, якая глыбока ўсвядоміла, што грамадства стаіць перад эканамічнай і палітычнай безданню і што калі не пачаць перабудову «зверху», яна пачнецца «знізу», з усімі вынікаючымі адсюль паследкамі. Зараз мы ставім сабе ў вялікую заслугу заканадаўчую ініцыятыву аб пераглядзе 6-га артыкула Канстытуцыі СССР, быццам камусьці было незразумела, што пытанне гэта было прадвырашана З'ездам народных дэпутатаў і што Пленум ЦК КПСС вымушаны быў канстатаваць статус-кво. Калі ж мы, прагназіруючы будучыню на сто гадоў наперад, бачачы тое, «что временем сокрыто», навучымся прадбачыць падзеі хоць бы на тыдзень наперад? Вось і І. Антановіч падлічвае колькасць камуністаў, якія стаяць на альтэрнатыўных ЦК КПСС платформах. Гэткая, ці бачыце, палітычная празарлівасць у межах чатырох арыфметычных дзеянняў...

Ніхто не адмаўляе права КПСС быць палітычным авангардам грамадства. Але гэтую сваю авангардную ролю яна можа выканаць сёння толькі як партыя парламенцкага тыпу, г. зн. пастаянна даказваючы гэтае свае права ў палітычнай барацьбе. Іншага шляху, мяркую, няма, і не будзе.

Я глыбока перакананы, што КПСС можа зберагчы сябе як аўтарытэтная і ўплывовая палітычная сіла толькі рэфармаваўшы сябе радыкальна, як гэта і прапануе «Дэмакратычная платформа». І ў першую чаргу адмовіцца ад месіянскай ролі, якую яна сама ж сабе і дэлегавала. Яна павінна, нарэшце, заняцца не ідэалагічнай міфатворчасцю, а рэальнай палітыкай, якая, як вядома, ёсць мастацтва магчымага.

# Абраннік Фартуны



**Народнаму артысту БССР Віктару ЧАРНАБАЕВУ — 60**

**Хітраватае вока гарэзліва бліснула і падміргнула камусьці. Выцягнуўся ўказальны палец. Скрывіўся ў нейкай злавеснай усмешцы рот. Голас выразна і напеўна прамовіў: «Блохе... кафтан?». Потым прарагатаў сваё амаль што д'ябальскае «Хе-хе...» і сцвердзіў: «Блохе — кафтан!» Спявак ужо, здаецца, замаўчаў, а голас яшчэ ракатаў, лунаючы недзе пад столлю.**

**Было гэта ў філармоніі. Мы слухалі Віктара Чарнабаева ў ранішнім канцэрце для школьнікаў. Артыст мог бы дазволіць сабе палёгку і выканаць свой нумар дзяжурна. Ну, у лепшым выпадку, як кажуць, строга акадэмічна. Ды было ў Чарнабаеве столькі сарказму і горычы, ён гэтак здзекаваўся з караля і каралевы, якія песцяць сваю любімую блыху, што здавалася, быццам гэта ў яго, у спевака, ёсць нейкі асабісты рахунак да вяльможных асоб. Фанабэрлівых ёлупняў ды ўладных самадураў, разбэшчаных і нікчэмных. Яны атручваюць жыццё яму, артысту, і ўсім нам, і ён зараз пяе хрэстаматыйна вядомы твор, які памагае свабодна выказаць уласную пагарду, высмеяць саноўных дурняў і той блышыны натоўп вакол каралеўскага трона.**

**На тым канцэрце мы былі разам з маленькім тады ўнукам. Гады мінаюць. Ды толькі пачуецца па радыё: «Блыха», як пасталелы хлопец усміхаецца і з пашанай вымаўляе: «Чарнабаеў». Зайздросны артыстычны лёс, калі з гучаннем пэўнага музычнага твора звязваецца імя ягонага выканаўцы! Звычайна гэта здараецца тады, калі слухач чуе твор упершыню ў жывым мастацкім выкананні, і менавіта ў такім: натхнёным, працятым нейкім асабістым тэмпераментным пачуццём артыста. Віктар Чарнабаеў — з тых майстроў вакалу, якія сваім талентам узрушаюць і зусім непасрэдную публіку, і знаўцу-тэатрала.**

**Прырода опернага тэатра такая, што яго салісту наканавана спяваць партыі са сталымі традыцыямі выканання, асветленыя імёнамі славутых папярэднікаў. Басу амаль абавязкова трэба «прайсці» шаляпінскі рэпертуар. Не ведаю, што і як перажывае сам Віктар Максімавіч, калі рыхтуецца да вячэрняга спектакля — а ў ягоным рэпертуары і Мефістофель («Фауст») і князь Галіцкі («Князь Ігар»), і Млынар («Русалка»), і кароль Філіп («Дон Карлас»). Але ж яму вядома, як гэтыя партыі выконваліся геніем сярод басоў свету...**

**Ёсць у мяне пэўны сантымент у адносінах да спевака В. Чарнабаева. У дзяцінстве мне аднойчы ў правінцыйным клубе давялося трапіць на канцэрт, які даваў нехта Гуга Ціц. На афішы было пазначана, што гэта «былы саліст Берлінскай оперы». Чаму — «былы»? І як гэта ён апынуўся на Урале — з Берліна, сталіцы Трэцяга рэйха? Высветлілася (хлопцы мы былі цікаўныя!), што спявак Гуга Ціц вымушаны быў эмігрыраваць з Германіі, дзе запанаваў Адольф Гітлер. Сімпатыі да артыста ў нас павялічыліся ўдвая... Нават імя гэткае — Гуга Ціц — здалося прываблівым і мілагучным, бо належала антыфашысту! І вось высвятляецца: вучыўся Віктар Чарнабаеў у Гугі Ціца, які пазней выкладаў у Маскоўскай кансерваторыі і вучылішчы пры ёй, дзе выхаваў многіх добрых артыстаў-спевакоў. «Вучань Гугі Ціца», — гэта, скажу вам шчыра, для мяне асабіста гучыць надта аўтарытэтна.**

**Праўда, калі слухаеш спевы В. Чарнабаева, пра гэта не думаеш. Артыст здатны так захапіць сваім мастацкім вобразам, што і «здань Шаляпіна» не адчуваеш побач хоць бы з ягоным Грэміным («Яўгеній Анегін») ці царом Дадонам («Залаты пеўнік»), з Дон Базіліо або Дон Бартала («Севільскі цырульнік»). Звычайна тое, што паказвае В. Чарнабаеў, — гэта завершаны характар, які выяўляе сваю сутнасць перш-наперш праз вакал. Віктар Максімавіч амаль па-старамоднаму грыміруецца, мае багатую мімічную палітру, пластычны ў руху, натуральна пачувае сябе ў баярскім камзоле і ў лахманах небаракі. Ці не гэтая гарманічнасць у сцэнічных паводзінах персанажаў В. Чарнабаева і стварае ўражанне, быццам артыст «нічога не робіць». Не забываю надзіва натуральнае яго пераўвасабленне ў таго ж Бартала ці ў Гаспара («Карневільскія званы» Р. Планкета), у Агамемнана (танееўская «Арэстэя») або ў пана Гадлеўскага («Яснае світанне» А. Туранкова). Ведаю, што прафесіяналы могуць па-навуковаму растлумачыць прыроду такога натуральнага існавання ў оперным мастацтве. Я — аматар з партэра, і мне бачыцца «сакрэт» артыстычнай абаяльнасці В. Чарнабаева ў поўнай свабодзе спеваў, у нязмушанасці ягонага вакалу. От, узнагародзіла чалавека прырода здольнасцю ў спевах выказваць свае самыя шчырыя пачуцці! Як кажуць, пацалавала яго Фартуна, калі захацела аднойчы паслухаць моцны і адначасова аксамітна мілагучны бас.**

**Чуў яго на канцэртных эстрадах, на падмостках нашага опернага, у юбілейных вясёлых застоллях (помню, як ён спевамі «ўсё сказаў» Паўлу Малчанаву ў сямідзесяты дзень нараджэння гэтага нашага выдатнага драматычнага артыста). І заўсёды Чарнабаеў як бы робіць сваімі тэксты і мелодыі знакамітых кампазітараў або вядомыя беларускія народныя песні. Так, праспяванае слова звычайна перадае і азначае для нашага вуха (і — для сэрца) нешта большае, чым тое ж слова, прачытанае на паперы або пачутае ў размове. Ды што слова — гук, праспяваны майстрам вакалу, можа сказаць нам пра запаветны стан душы, адкрыць у эмоцыях чалавека тое, чаго ён інакш выказаць не здолеў бы ніколі. Пры ўсёй артыстычнай кідкасці выканання партый у спектаклях і канцэртных нумароў (прынамсі, камерных твораў Ю. Семянякі, Л. Абеліёвіча, А. Янчанкі) у В. Чарнабаева часта спяваецца пра большае, чым нясе само слова.**

**Магчыма, я памыляюся ў сваіх высновах. Ды і ведаю далёка не ўсё, што мае ў сваім рэпертуары спявак. Выказваю сваё агульнае ўспрыманне гэтага артыста. Дарэчы, ён аднойчы ў сяброўскай кампаніі, дзе былі кампазітары і паэты, не без іроніі прамовіў пра сябе: «Я ж адно толькі — спявак...» Як гэта многа і як важна — спявак, Віктар Максімавіч! Спевы не перакладаюцца на звычайную мову лагічных разваг і меркаванняў. Яны западаюць нам у душу.**

**Калісьці, трапіўшы ўпершыню на каўказскае ўзбярэжжа Чорнага мора, я ўзняўся на высокую гару, з якой адкрываўся дзівосны краявід на блакітна-зялёную прастору, узгорбленую ланцугамі бясконцых хваляў. Сонца з-за беласнежных аблокаў фарбавала тую прастору то ў таямнічы аквамарын, то ў свінцовую шэрасць, то ў бурштынавае золата. Стоячы на вяршыні і агля даючы даль, раптам адчуў: дух заняло і да горла з сэрца мкне песня... І вось чытаю ў адным нарысе пра В. Чарнабаева, што ён родам з чарнаморскага Новарасійска, у маленстве разам з бацькам хадзіў у горы на нарыхтоўку лесу. Там яму з вяршыняў і адкрывалася тая блакітна-зялёная марская прастора, і там ён, здаецца, упершыню заспяваў. А многа пазней быў беларускі ДАВТ. Мінск, дзе яму пашчасціла на сяброўства і творчую садружнасць з Л. Александроўскай і Д. Смолічам, з А. Багатыровым і Ю. Семяняком, з Т. Каламійцавай і Я. Вашчаком, з С. Данілюк і З. Бабіем, з А. Саўчанкам і Г. Праваторавым, з С. Картэсам і Г. Вагнерам, С. Штэйнам і А. Кагадзеевым...**

**Кажуць, лёс літасціва вядзе таго, хто схільны сам ісці, і сілком падштурхоўвае і прымушае таго, хто ўпарціцца, — і праўда! Добра нарадзіцца з гэткай схільнасцю таленавіта крочыць да мэты. Добра своечасова ўзысці на сваю гару, на якой з душы тваёй пальецца песня. Добра сустрэць дбалых настаўнікаў, якіх варта браць за ўзор, і чулых калег па творчасці. Тады лёс памагае табе самому гартаваць у сабе майстра.**

**Барыс БУР'ЯН.**

